Развітанне з паэтам ➔3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вакол Кудака ➔ 9




http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 10 (2912) Год LVII | Беласток, 4 сакавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Пасляперапісныя сумненні

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Злева: Дабеслаў Жэменеўскі, Артур Яблонскі, Владзімеж Карпінскі, Агнешка Казлоўская-Раевіч

**Аб прадбачваннях адносна вынікаў нацыянальнага перапісу, радыё і тэлеперадачах аб нацыянальных меншасцях, прабламе ксенафобіі, ведах аб меншасцях у польскай сістэме асветы ды рэалізацыі Польшчай еўрапейскай карты рэгіянальных моў два дні размяўлялі ў Беластоку члены Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей (СКУіНіЭМ). Камісія з'яўляецца дарадчыкансультатыўным органам прэм'ера. Створана яна ў 2005 г. на аснове закону аб меншасцях.**

Камісія сабралася на выязным пасяджэнні (22-23 лютага) якраз у Беластоку, паколькі ў Падляшскім ваяводстве дайшло летась да серыі інцыдэнтаў ксенафобнага характару, накіраваных супраць меншасцей. Вінаўнікі тады намалявалі антыяўрэйскія надпісы на сінагогах у Орлі і ў Крынках, падпалілі ў Беластоку кватэру польска-пакістанскай сям'і, знішчылі зорку Давіда, абсаджаную кусцікамі самшыта ў месцы ўвекавечання беластоцкага яўрэйскага могільніка, замалявалі польска-літоўскія назвы мясцовасцей у Пунскай гміне і аблілі фарбай мемарыяльны камень, прысвечаны літоўскаму паэту ў вёсцы Бубеле непадалёк Сейнаў, намалявалі антысеміцкія і нацысцкія надпісы на мемарыяле, увекавечваючым ахвяры закатаваных ў Ядвабным ды парушылі Марш адзінства ў Беластоку, сарганізаваны ў знак пратэсту супраць такіх актаў.

— Мы хацелі сустрэцца ў Беластоку, каб сказаць, што няма згоды на такія выбрыкі, — пачаў пасяджэнне яе сустаршыня (цяпер побач віцэ-міністра адміністрацыі і лічбавізацыі Владзімежа Карпінскага) **Артур Яблонскі**, прадстаўнік кашубскай меншасці.

Дыскусія ў зале Падляшскай ваяводскай управы пачалася, аднак, з праблемы функцыянавання меншаснай тэматыкі ў публічных радыё і тэлебачанні, галоўным чынам у іх беластоцкіх асяродках.

— З'яўляемся адзінай радыёстанцыяй, дзе меншасныя журналісты заняты на штатах. Незалежна ад унутранага і вонкавага супрацву, удалося нам увесці меншасную музыку ў агульны план перадач цэлага дня. Таксама ў сувязі з гэтым сутракаемся з пытаннямі, ці мы мо ўсходняе або рускае радыё. Я прывык ужо да такіх праяў ксенафобіі, — прызнаўся старшыня Радыё Беласток **Уладзіслаў Праховіч** (сам беларус па нацыянальнасці).

У сваю чаргу сакратар Тэлебачання Беласток **Юры Каліна** (знакаміты дакументаліст; таксама беларус па нацыянальнасці) паінфармаваў з трывогай, што грошай з абанементу, перадаваных асяродку з цэнтра, хопіць выключна на рэалізацыю адной місійнай праграмы — штодзённай інфармацыйнай перадачы „Аб'ектыў", ды і толькі да верасня.

— Няма ніякіх мэтавых сродкаў на прадукцыю меншасных праграм, — адзначыў.

Такія грошы ў мінулым годзе гарантавала Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання (КРРіТ). Прысутны толькі на наступны дзень пасяджэння супольнай камісіі, значыць, непрысутны ў час радыё-тэлевізійнай дэбаты, член КРРіТ Стэфан Пастушка прызнаўся аднак у размове з „Ніваю", а пасля перад камісіяй, што такіх гарантый не было, а толькі намёк накіраваны ўправе TVP. Заадно Артур Яблонскі, як і Стэфан Пастушка абяцалі справу высветліць. Юры Каліна ўспомніў таксама знятыя з тэлеэфіру (з-за ашчаднасці) меншасныя праграмы, між іншым, расійскую. На яе месцы паявілася перадача „Расійскі экспрэс", якую спансаруе пасольства Расіі ў Польшчы, і якую купляе беластоцкі асяродак за... 10 злотых (падобна ёсць з адной з нямецкіх перадач Радыё і Тэлебачання Аполе, якую спансаруе пасольства Нямеччыны). **Андрэй Раманчук** з Расійскага грамадска-культурага таварыства заявіў:

— Фінансаванне з бюджэту іншых дзяржаў нямецкай праграмы ці „Расійскага экспрэса" — небяспечнае. Якой явіцца роля польскай дзяржавы ў адносінах да меншасцей?

Аб практыках фінансавання меншасных праграм у польскіх асяродках публічнага тэлебачання пасольствамі чужых дзяржаў Артур Яблонскі сказаў „Ніве": „Гэта сорам для польскай дзяржавы".

У час абрад **Артур Канапацкі** з Саюза татараў РП не хаваў жалю:

— Наша праграма (знятая з тэлеэфіру ў мінулым годзе — М. Х.) гэта было 6 хвілін у месяц. Гэтыя шэсць хвілін, здаецца, не ратавалі фінансаў Тэлебачання Беласток? Гэта крывадушнасць!

**Пятро Тыма**, старшыня Саюза ўкраінцаў у Польшчы ў сваю чаргу спасылаўся на знятую, а пасля вернутую літоўскую праграму.

— Літоўская перадача па прычыне таго, што адправляялі яе ў космас (не прымалася яна на тэрыторыі кампактнага пражывання польскіх літоўцаў, значыць, у раёне Сейнаў і Пунска — М. Х.), была знята з тэлеэфіру, а пасля, па геапалітычных прычынах, вернута, хоць далей шлецца ў космас.

Юры Каліна заявіў, што літоўская праграма будзе бачыцца ў раёне Пунска і Сейн толькі недзе праз паўтара года разам з лічбавізацыяй тэлебачання.

Пятро Тыма спытаўся:

— Калі літоўская праграма вяшчаецца ў космас, дык чаму грошай, прызначаных на яе, не даць на праграму татарскай меншасці?

**Кс. Тадэвуш Ісаковіч-Залескі**, прадстаўнік армянскай меншасці, не хаваў жалю:

— Ёсць у Польшчы расцярушаныя меншасці, такія як армянская, таксама і тут на Падляшшы. У публічным тэлебачанні няма следу аб армянах, а мы хацелі б інфармаваць аб нашых святах.

Артур Яблонскі:

— Неабходныя запісы ў законе аб радыёвяшчанні і тэлебачанні аб фінансаванні меншасных перадач. Пакуль ёсць запіс аб неабходнасці вяшчання такіх праграм.

**Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза ў РП пастуляваў:

— Мы хацелі б інфармацыі з КРРіТ, ці будуць абяцаныя грошы на меншасныя праграмы.

Значна больш рознагалоссяў выклікала праблема мінулагодняга нацыянальнага перапісу, а ў прынцыпе метадалогія апрацоўкі яго вынікаў. Неспакой выклікаюць перш за ўсё магчымыя неверагодныя даныя наконт ліку паасобных меншасцей, асабліва таму, што аказалася, што самаперапіс (праз інтэрнэт) можа не мець значэння пры апрацоўцы вынікаў перапісу. Як шматзначна заявіла Галоўная статыстычная ўстанова (ГСУ) у нататцы, перададзеннай супольнай камісіі ў апошнюю хвіліну перад яе пасяджэннем: „Усе адказы на нацыянальна-этнічныя пытанні, атрыманыя па-за выбарачным даследаваннем, маюць каштоўнае пазнаўчае і метадалагічнае значэнне, як крытэрый праверкі і паляпшэння якасці адпавядаючых ім даных (вынікаў) выбарачнага даследавання". **Люцына Новак** з дэпартамента дэмаграфічных даследаванняў ГСУ паінфармавала, што вынікі перапісу будуць агучаны на пераломе чэрвеня і ліпеня, а частковыя маюць быць прадстаўлены 22 сакавіка ў час сесіі, інаўгуруючай Дэмаграфічны кангрэс у прэзідэнта Браніслава Камароўскага.

— На ўзроўні паветаў вынікі павінны быць вельмі добрымі. Нават калі б мы не карысталіся самаперапісам, зможам на падставе рэпрэзентатыўнай выбаркі перапісу (такім спосабам даследавалі 20 працэнтаў грамадзян, якія адказвалі на 60 пытанняў; у няпоўных даследаваннях было 16 пытанняў — М. Х.) паведаміць вельмі добрыя вынікі аб стане меншаснай структуры.

Як паінфармавала Люцына Новак, ГСУ намерваецца пера-

працяг ☞11





# *Дыктатуры і разбэшчанасць*

*Як усё пераплецена, знітавана ў палітычным свеце. І як падобнае цягнецца да падобнага. Вось узяць хоць бы таталітарныя рэжымы. Наколькі яны мілыя адны адным, наколькі роднасныя. І ўсе грунтуюцца на некалькіх кітах. „Кіты” гэтыя: неспатольная прага нажывы, даведзеная да абсурду, неадольнае паталагічнае памкненне ўладарыць над іншымі людзьмі, нянавісць да ўсяго добрага і светлага. Так было заўсёды і так будзе напэўна да скону гэтай планеты. Возьмем цяперашнюю трагічную сітуацыю ў Сірыі. Тамтэйшы дынастычны дыктатар Асад давёў жыхароў краіны да адчаю і ў выніку — да сапраўднай грамадзянскай вайны. Міжнародная супольнасць — ад краін НАТА да Лігі арабскіх дзяржаў — адчайна шукае шляхоў выйсця з сітуацыі, калі штодзень забіваюць дзесяткі, а то і сотні чалавек. А іншыя дзяржавы — найперш Кітай і Расія — блакуюць усе канструктыўныя прапановы і рэзалюцыі ААН у дачыненні да Сірыі. Блакуюць таму, што ў гэтых „супердзяржавах” кіруюць такія самыя рэжымы, як і ў Дамаску. Яны працыруюць падзеі на Блізкім Усходзе на сваё тэрыторыі, на сябе і таму займаюць такую „асаблівую пазіцыю”. Невыпадкова найбольшай прапагандысцкай „страшылкай” у Маскве і на іншых расійскіх прасторах напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў стаў прывід „аранжавай рэвалюцыі”. І вынік, здаецца, загадзя вызначаны — новая „элегантная” перамога пуцінізма не выклікае сумненняў. А ўсё ж страх перад публічным выкрыццём сутнасці і сапраўднага аблічча такі вялікі!*

*Карыкатурны прэзідэнт Мядзведзеў завяршае свой тэрмін паўнамоцтваў. Завяршае бясслаўна і ганебна, як таго і чакалася. І перад самым выхадам ён яшчэ раз выявіў сапраўдную падтрымку свайму калегу, які ўжо амаль дваццаць гадоў аднаасобна кіруе Беларуссю. Што ж Мядзведзеў разам са сваім патронам Пуціным — гэта толькі чарговыя змрочныя фігуры ў расійска-беларускіх дачыненнях найноўшай гісторыі. Да іх былі Чарнамырдзін, Селязнёў і Строеў, уратаваўшыя ў 1996 годзе Аляксандра Лукашэнку ад непазбежнага імпічменту. Было гэта яшчэ пры кіраванні Ельцына, які, хоць і меў чалавечае аблічча ў параўнанні з Пуціным, так і не змог узняцца вышэй вялікадзяржаўнага шавінізму, ні на крок не адышоўшы ад маскоўскіх традыцый. Усе гэтыя расійскія кіраўнікі папоўнілі даўжэзны спіс знішчальнікаў Беларусі, які складваўся стагоддзямі.*

*Дыктатуры не маюць ні кантынентальных, ні расавых, ні нацыянальных абліччаў. У іх адзін твар і сутнасць — кіраваць „вечна”. Вось сенегальскі ўладар, які ўжо і так на схіле веку, абвясціў пра намер жыць ажно да ста гадоў і адпаведна цешыць сваім кіраваннем удзячны народ. Нічога, што канстытуцыя не дазваляе яму больш балатавацца ў прэзідэнты. Канстытуцыя для кожнага ўзурпатара — гэта прыгонная дзеўка, якую перыядычна можна беспакарана гвалціць. Многія робяць гэта з асаблівым цынізмам. Той жа Пуцін, прыкладам. Ну, а „прагрэсіўны” Захад вельмі любіць самападманвацца ў дачыненні да такіх правадыроў. Як усё ж паўтараецца ў гісторыі. Пакуль праблемы не вырастаюць да міжнароднага маштабу, з такімі актыўна супрацоўнічаюць, ганлюдюць, усміхаюцца, уключаюць „перазагрузку”. Потым выяўляецца, што ўсё гэта дарэмна, шкодна і ўрэшце бесперспектыўна, што з маленькага прылашчанага цмока ўжо вырас сапраўдны чарговы монстр.*

*Дыктатуры не вырастаюць на пустым месцы. У сітуацыі краін былога СССР яны — найперш вынік цяжкай савецкай спадчыны. Канешне, для таго, каб у той ці іншай дзяржаве склаўся таталітарны рэжым, патрэбны цэлы шэраг акалічнасцей і складнікаў. Адзін з такіх фактараў — знешняя эканамічная падтрымка. Так багатыя дэмакратычныя краіны не зважаюць на існасць. Да палітычнай разбэшчанасці вядзе неразборлівасць у выбары эканамічных партнёраў. Вось узялася Еўропа санкцыі супраць рэжыму ў Беларусі ўводзіць — і тут выяўляецца, што то адзін, то іншы член Еўрасаюза не туды залез. А тут яшчэ Ізраіль прыслаў у Беларусь такога амбасадара, што хоць назад яго адклікай. Беларусь дала гэтай краіне нямала: радуньскія габрэі прынеслі асвету, ваўкавыскія стварылі войска, валожынскія і пінскія далі шмат выдатных палітыкаў. Але гэта так, да слова, рэмарка. Новы пасол на словах дасведчаных людзей — з атачэння адыёзнага палітыка Авігдора Лібермана, вядомага сваімі „чорнымі” гаспадарчымі схемамі. Вось і ўсё тлумачэнне няўключнасці новага пасла. Можа камусьці ўрэшце стане сорамна за такую палітыку?*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# *Ябеларусь не Беларусь*

*Аб вялікай гібелі беларусаў у 1941-1945 гадах напісалі ўжо шмат, але ж пра тыя трагічныя падзеі родам з Апакаліпсіса замала сто разоў прыгадаць. Не думаў я, аднак, што пра беларускі генацыд прыйдзецца мне пісаць у кантэксце выказвання Аляксандра Лукашэнкі, якое лічу неадпаведным і недарэчным. А перш за ўсё цынічным, таму што засланяецца ён народам, якому, насуперак таму што кажа, адмаўляе грамадзянскай суверэннасці, незалежнасці і праўды.*

*Пачнем з інфармацыі, якую далі „Беларускіе новости”. Прыводзяць яны заяву Лукашэнкі, кляймуючую еўрапейскія санкцыі ўладам Беларусі. Прыгадаю, што ЕС увёў іх у сувязі са сфальшаваннем вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у 2006 годзе, а пасля выбараў 2010 года на вестку аб разгоне апазіцыйнай дэманстрацыі ў дзень галасавання і пакарання яе ўдзельнікаў, у тым ліку апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнта, пабыўкай у карнай калёніі, значна больш пашырыла яе рэпрэсійныя прэрагатывы. Не накіраваны яны, аднак, на беларусаў, нават не на беларускую дзяржаву, а на прыгнятальны ўрад Аляксандра Лукашэнкі, які сваіх грамадзян трактуе як статак безрэфлексійных бараной ведзеных у бойню. Не падабаецца вам Лукашэнка і курс, які ён абраў? Мы ад яго не адступімся, пакуль мяне выбіраюць прэзідэнтам! — заявіў кадучны прэзідэнт. На канец каляровай і багатай у мегаламанскія акцэнты заявы Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што калі нават яго краіна будзе пакінута палітычнымі сябрамі Расіяй і Кітаем, і так будзе „да смерці стаяць на месцы, так як у 1941-1945 гадах, абараняючы сваю незалежнасць і суверэннасць”.*

*Без сумненняў, паняцці суверэннасці і незалежнасці інакш вызначыць большасць беларусаў, а зусім інакш Лукашэнка. Не ўваходзіўшы ў дэталі, трэба адзначыць, што чым большая суверэннасць кіруючых у адносінах да народа, тым большае зняволенне самога народа, а чым большая незалежнасць чалавека ад дэмакратычнай волі большасці грамадзян, тым больш у турмах палітычных ахвяр. Карацей, беларусы павінны выбраць, у імя якой, або чыёй суверэннасці і незалежнасці вырашацца „да смерці стаяць на месцы, так як у 1941-1945 гадах”.*

*Тут варта прыгадаць, якое спазналі яны тады пекла. З ліку 9 мільёнаў людзей, пражываючых на тэрыторыі Беларусі, у 1941 годзе толькі немцы забілі здалёк ад палёў баёў каля 1,6 мільёна чалавек. Чарговыя пару соцень тысяч загінулі ў розных баях як салдаты мусам прызваныя ў Чырвоную Армію. Да 1 студзеня 1944 года савецкія партызаны забілі як здраднікаў 17 431 асобу (у большасці невіноўнага цывільнага насельніцтва), аб чым заявілі свайму кіраўніцтву ў Маскве. Гэты лік не ўлічвае мірных грамадзян забітых імі па іншых прычынах. Агулам партызаны забілі дзесяткі тысяч людзей. Чарговыя пару дзесяткаў тысяч страцілі жыццё за час савецкай акупацыі ў 1939-1941 гадах.*

*Асцярожная ацэнка ліку смяротных ахвяр на тэрыторыі сённяшняй Беларусі за час II сусветнай вайны паказвае на два мільёны. Чарговыя 2 мільёны ўцяклі ад немцаў, а другіх столькі ж — дэпартавалі. Пачынаючы ад 1944 года саветы выкінулі чвэрць мільёна ў Польшчу, а чарговыя дзесяткі тысяч павалаклі ў ГУЛаг. Як прымусовых работнікаў выкарысталі каля аднаго мільёна беларусаў. Значыць, да канца вайны загінула або была перасялена палова насельніцтва Беларусі! У такі планамерны спосаб ліквідавалі таксама беларускую інтэлігенцыю. Спачатку „занялося” ёю савецкае НКВД у 1937-1938 гадах, у 1942-1943 гадах — савецкія партызаны, якія без міласэрнасці пазабівалі беларускіх настаўнікаў як калабарантаў. Такая бязмежнасць чалавечых пакут не кранула ў параўнальнай ступені ніякую іншую еўрапейскую краіну!*

*Усе гэтыя страшныя даныя я ўзяў з прац Цімаці Снайдэра „Акрываўленыя землі” ды Юрыя Туронка „Беларусь пад нямецкай акупацыяй”. Можа варта запрапанаваць іх Аляксандру Лукашэнку? Хай бы хоць кінуў вокам. Толькі ці гэта яго азорыць?*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# *Рух аўтаноміі Падляшша*



*Да канца сакавіка на адной з сацыяльных сетак працягваецца акцыя „Далучыся да Руху аўтаноміі Падляшша!”. Рух засяроджаны вакол антраполага культуры Тамаша Сулімы, штодзень звязана з Музеем малой айчыны ў Студзіводах.*

*У інтэрнэце можна прачытаць: „Рух аўтаноміі Падляшша не з’яўляецца палітычнай арганізацыяй, гэта грамадскі рух узніклы на базе супрацiву ў адносінах да мінулагодніх актаў насілля і нецярпімасці, накіраваных на прадстаўнікоў іншых культур, рэлігій і перакананняў на Падляшшы. Гэтыя злачынствы не маюць выключна хуліганскага характару, а ў нашым перакананні з’яўляюцца вынікам паміжковай нацыянальнай і гістарычнай палітыкі III РП. Галоўнай яе мэтай з’яўляецца ўмацаванне грамадзян РП вакол адной версіі гісторыі, якая неадноіўна б’е ў шматнацыянальную і шматрэлігійную грамадскасць Падляшша. Хочам суіснавання лакальных грамадстваў ды суіснавання іхніх лакальных гісторый”. Сярод пастулатаў — як гэта акрэслілі — у адносінах да Падляшша — апынуліся м.інш. ахова культурнага краявіду (архітэктуры, мясцовай вуснай і пісьмовай традыцый, моў і гаворак), ахова прыроднага краявіду, захоўванне сельскага характару рэгіёна, рэвізія цяпер падтрымліванай гісторыі Падляшша, якая зніжае ролю іншых народаў і рэлігій у суствāранні рэгіёна, рэвізія межаў цяперашняга Падляшскага ваяводства, якая не ўлічвае гістарычнага паўднёвага Падляшша (за Бугам), папулярызацыя ведаў на тэму гісторыі Падляшша, з асаблівым улікам усходняй яго часткі, якая цяпер распалажана на тэрыторыі Беларусі. Дзеячы Руху хочуць таксама ў месца паняццяў меншасці і большасці крыстаіца паняццем „групы роўныя сабе”, а таксама распаўсюджання ідэі прыналежнасці да Рэчы Паспалітай, папулярызаванай Чэславам Мілашам і Ежы Гедройцам, абапіраючага на шматсуб’ектнасць ідэй і светапогляду.*

*Яшчэ восенню мінулага года Тамаш Суліма ў адным з выказванняў у тэлебачанні сказаў:*

*— Гаворка пра тое, каб адзначаць тую лакальнасць. Кожны з нас жыве, апрача таго, што ў Польшчы жыве тут і цяпер, у нейкай грамадскасці. Хацелася б, каб тое Падляшша магло спасліцца, рэальна спаслацца на ідэю першай Рэчы Паспалітай.*

*Фактычна назва руху можа гучаць пагрозліва так, як Рух аўтаноміі Сілезіі, якога галоўнай мэтай з’яўляецца стварэнне аўтанамічнага рэгіёна ў гістарычных межах Верхняй Сілезіі. Члены РАС, хоць запэўніваюць, што яны сепаратысты, дык хочуць увядзення шырокай рэформы дзяржавы ў выглядзе ператтварэння Польшчы ў г.зв. рэгіянальную дзяржаву, а ў далейшай перспектыве — федэратыўную. Я наколькі разумею ідэю галоўнага стваральніка РАП, то аж такіх змен РАП не дамагаецца. Здаецца, думка тут пра закапанне падзелаў на роўных і раўнейшых па нацыянальнасці і веравызнанні на Падляшшы. Дарэчы, самі інспіратары РАП заяўляюць: „Лічым, што Падляшша павінна быць спадкаемцам найлепшых традыцый шматнацыянальнай і шматрэлігійнай Рэчы Паспалітай. Павінна яно быць месцам, у якім ніхто не пачуе, што нейкая рэлігія ці народ маюць вядучую ролю. Усе жыхары Падляшша павінны быць роўныя, незалежна ад этнічнай, моўнай ці рэлігійнай прыналежнасці”. Ідэя стварэння РАП здаецца мне быць цікавай. Сумняваюся, аднак, ці тыя, ад якіх залежыць будаванне грамадскай „атмасферы” ў рэгіёне, патрактуюць яе сур’ёзна. Думаю тут аб усім адміністрацыйна-палітычным апараце, таксама і самаўрадавым. Як паказвае практыка апошніх гадоў, той апарат не гатовы думаць у катэгорыях грамадзяне „роўныя сабе”, а выключна яны — меншасць, мы — большасць і кожны павінен ведаць сваё месца ў шэрагу.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ціхае развітанне з паэтам Уладзімірам Гайдуком

**— Ён ціха жыў і ціха ад нас адышоў, — сказаў Віктар Стахвюк, узрушаны да глыбіні настроем спакою. Пра смерць паэта даведаўся ад сяброў і хоць ведаў яго толькі па творах, палічыў неабходным правесці яго ў апошні шлях.**

**— Валодзя Гайдук для мне феномен, — кажа сябра паэт і жывапісец, — у кожным яго радку іскрыцца натхненне, якаясь нечаканасць, вабнасць. Яго жыццё было перапоўненае самотнасцю, але душа была светлай, гожай. І, відаць, такі закон Божы, што паэты паміраюць ціха, у самоце...**

Калі 25 лютага, у суботу, я ехала з Беластока ў Старое Ляўкова на пахаванне, у прыродзе адчувалася ўжо прадвесне. У месцах, дзе растаў снег, зеляніліся палотны прымерзлай травы. Час ад часу з шэра-блакітнага неба крапіў дождж. Пахаванне было назначанае на дзевяць гадзін раніцы. Дваццаць хвілін да пачатку службы ля труны ў старажытнай ляўкоўскай царкве стаялі тры асобы: сястра паэта Ганна, і яго сябры — прафесары Галіна Тварановіч і Ян Чыквін. З сяброў літаратараў даехалі яшчэ Міра Лукша, Віктар Стахвюк і Янка Целушэцкі з жонкай Ядвігай. Усё пачалося з літургіі, якую адслужылі настаяцель а. Леанід Янкоўскі і вікарны а. Іаан Гацута. Адсутнасць царкоўнага хору, за які наперамен спявалі самі святары, толькі папаўняла настрой самотнасці. Як сказалі мне парафіяне, каб паховіны адбыліся са спевам, сям'я павінна раней *згадзіць пеўчых* і заплаціць ім жаданую суму.

— Мы не ведалі, што тут такія парадкі. Каб жа чалавек тое ведаў... Заплацілі б ім кожную суму, — перажывала пасля паховін Ганна Ткачук, сястра паэта, якая прыехала са Слупска заняцца хаўтурамі.

* * *

Уладзімір Гайдук памёр ад прастуды, праўдападобна 20 лютага, у панядзелак, у сваёй хаце ў лясным урочышчы Полымя. У той самы дзень, раніцай, ён наведаў нараўчанскага лекара, які прыпісаў яму антыбіётык.

Ці прадчуваў сваю смерць?

— Калі я званіла яму ў пятніцу, ён наракаў на прастуду, — успамінае спадарыня Ткачук. — І баяўся лягаць спаць. Казаў: *Лягу і ўжо не ўстану!*

Адчуўшы неспакой, сястра паабяцала прыехаць даглядаць. А ён на тое: *Дзе ж будзеш ехаць, мерзнуць...* Паабяцаў тады схадзіць да лекара і пасля візіту пазваніць ёй у Слупск. Тэлефонны званок аднак увесь дзень маўчаў.

— Я штосьці благое прадчула і пачала яму званіць. Але ніхто не адзываўся. Званілі яшчэ ў аўторак. З другога боку цішыня. У канцы вырашылі пазваніць знаёмай з Ляўкова.

— А я сябравала з другой сястрой Валодзі, што ў Лазовым жыла (яе ўжо няма ў жывых), — кажа Зіна Рубчэўская. — Праз яе пазнаёмілася я з Ганнай са Слупска. У аўторак яна пазваніла і кажа: *Ты змілуйся, забач што з Валодзем, а то не адбірае тэлефона.* Ну і мы селі ў машыну і паехалі з мужам. Стукалі, стукалі ў дзверы, ніхто не адзываўся. Толькі сабакі брахалі. Мы яшчэ ў суседзяў пасядзелі і зноў пайшлі, пастукалі, без водгуку.



— Мы дабраліся ў Тарнопаль у чацвер, — успамінае Ганна Ткачук. — Спачатку трэба было ўзламаць дзверы ў хату. Ён памёр седзячы, верагодна задыхнуўся. На падлозе стаялі пакеты з пакупкамі. Цяжка мне ў тое ўсё яшчэ паверыць. Нават апошняй кніжкі не паспеў падпісаць...

* * *

Пра сумнае здарэнне паведаміў асяроддзе Янка Целушэцкі з Новага Ляўкова. Спачатку ён не хацеў паверыць у найгоршае, званіў Валодзю Гайдуку з надзеяй, што пачуе яго голас у трубцы. Няраз бывала, што паэт нікому не адчыняў дзвярэй, не падымаў трубкі.

— Калі апошні раз я яго бачыў, гэта было 19 верасня, ён таксама доўга не адчыняў дзвярэй. Але ўпусціў мяне, зборнік падпісаў. І яшчэ пасмяяліся... Бо я прывёз з сабой *цястка*, якія жонка спякла, і каву. І ён дзіваваўся, бо *цястка* былі цёплыя. Давай пытаць, што за дзіва. То кажу: *Ехаў і ў сонцы нагрэліся...* Расказваў тады пра сямідзесяцігоддзе, хто ў яго быў. І ўсё дапытваўся мяне ці не запісваю яго на магнітафон. Нават па грудзях мяне памацаў. Шукаў дыктафона...

Янка Целушэцкі сам хацеў штосьці зрабіць для паэта. Нядаўна, 15 лютага г.г., выступіў на сесіі Гмінная рады ў Нараўцы і сказаў: „Вы ўзнагароджваеце спартсменаў і ўсякіх рукадзельнікаў. А вось людзей, якія займаюцца творчасцю, пішуць вершы, апавяданні, ніхто не прыкмячае". І назваў прозвішча Уладзіміра Гайдука, і яго чатыры зборнікі: „Ракіта", „Блакітны вырай", „Пах аернага хлеба", „Полымя роднае".

— І мой пастулат запісалі, — адзначае з гонарам. — Чаму ніхто з всёскі не прыйшоў на паховіны?

— Нашы людзі занятыя сваім жыццём, — кажа ў адказ.

— Бліжэй я яго не знала, мы не спатыкаліся, — кажа Зіна Рубчэўская. — Скажу толькі, што чалавек ён быў добры. Нічога кепскага нікому не зрабіў. Ён мала да людзей выходзіў. Як дужэйшы быў, то кароў трымаў, малако ў малачарню насіў, то бачылі. А, кажаце, вершы пісаў? Ну, я сёння пра гэта даведалася!



* * *

У прыадкрытай дамавіне, дзе, здавалася, памаладзеў на дваццаць гадоў пакойнік, красавалася яго „Полымя роднае". Зборнік густоўна пераклікаўся з зялёным касцюмам паэта. Уся карціна няслала ў сабе спакой, настрой прабачэння.

— Неўспрыманне сваіх творцаў гэта заканамернасць, якая дзейнічае ў прасторы славянскіх літаратур, — сказаў спакойна прафесар Ян Чыквін ужо пасля пахавання. — Часта іх не разумеюць родныя, не ўспрымае іх найбліжэйшае асяроддзе, не цікавяцца імі людзі. І пасля красамоўнай паўзы дадаў: — Думаеце, хто найперш ведаў Адама Міцкевіча? Даследчыкі. Мы таксама сёння не ўсведамляем, што мы пахавалі вялікага паэта. Уладзімір Гайдук быў праўдзівым паэтам. Усё што напісаў мае мастацкую каштоўнасць. Мяне заўсёды ўражвала, што ў такой глыбінцы, закутку, ёсць такая пярліна. І цяпер баліць свядомасць, што хутар Полымя зачыніўся. Не будзе да каго прыехаць. Але застаецца нейкі светлы німб. Сёння Беларусь развіталася з праўдзівым паэтам. Валодзя заняў сваю нішу ў беларускай літаратуры. А „Полымя" разам з яго смерцю набыло сімвалічнае значэнне.

Калі Віктар Стахвюк даведаўся пра смерць паэта, ён яшчэ раз прачытаў яго зборнік:

— Мяне абсалютна ўражвае яго еднасць з прыродай. Кожны радок адкрывае штось іншае, цудоўнае, фантастычнае. Яго найбольшая любоў — родная прырода. У яго вершах подых роднага лесу, роднай зямлі. Штосьці чароўнае... Ён быў настолькі аб'яднаны з прыродай, што гэтагага не раздзяліць...

* * *

Уладзімір Гайдук меў зразуменне і належную ўвагу ў сям'і. Яго аўтарытэт, як паэта і сумленнага чалавека, перадаўся пляменніку Пятру Ткачуку са Слупска.

— Заўсёды я здзіўляўся ўражлівасці дзядзькі, яго далікатнасці ў адносінах да кожнага жывога стварэння. Пра такіх людзей часта кажу „што ён і мухі не скрыўдзіць". Усе яго кнігі захоўваю ў найбольшай пашане. З яго асобай звязаны кавалак майго жыцця. Кожныя канікулы мы з братам і мамай прыязджалі да дзядзькі. А тут не было „разрыўкі", мы ўвесь час працавалі. Касілі траву, сушылі сена, капалі бульбу, выкідалі гной, палілі вогнішчы, каб адагнаць дзікоў ад пасеваў. Я, дзякуючы яму, зразумеў як цяжкае жыццё ў земляроба, колькі чалавек мусіць напрацавацца.

Ганна Ткачук апавядае як ганарылася кожным творчым поспехам брата:

— Я нават захоўваю тую „Ніву", дзе надрукавалі яго першы вершык. Паклала ў валізку і так ляжыць. І вельмі балюча, што не паспеў мне падпісаць свой апошні зборнік. Калі званіў, то гаварыў хто ў яго быў, вельмі цешыўся калі вы з „Нівы" да яго прыязджалі. Усім вам за гэта я ўдзячная, шчырае дзякуй, што не пакінулі чалавека!

* * *

Магілка паэта, прыаздобленая жывымі кветкамі і трыма вянкамі (ад сям'і, „Белавежы" і „Нівы"), знаходзіцца ў Новым Ляўкове. Паэт пахаваны разам з маці Надзеяй і бацькам Андрэем. Перажыў іх на трыццаць гадоў.

На развітанне Міра Лукша прачытала тры вершы: „Мой лёс", „Вясна" (Вачыма не бачу але прадчуваю...), „А сэрца птушкай у грудзях б'ецца". Усе чатырнаццаць асоб, якія праводзілі ў апошні шлях паэта, узрушыліся, тойсёй пусціў слязу. І была ў гэтым жэсце павага і цішыня. Калі мы вярталіся з пахавання, у вочы чамусьці кінулася лясная дарога да Валодзінага хутара. Апошнім разам, калі мы з Мірай ехалі на дзень нараджэння паэта, яна „схавалася" ад нас і заставіла блукаць па лесе. А сёння паказалася надзвычай зялёнай, як сімвал адраджэння.

## Аўтарскі вечар Алены Анішэўскай

9 лютага 2012 г. а 17-й гадзіне ў Культурным цэнтры Беларусі ў Варшаве распачаўся аўтарскі вечар Алены Анішэўскай. Ураджэнка Белавежы піша вершы і апавяданні на беларускай і польскай мовах, належыць да Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”. Яе творы былі надрукаваны ў альманаху „Беларускія пісьменнікі Польшчы. Другая палова XX стагоддзя”, выдадзеным у 2000 годзе ў Рэспубліцы Беларусь.

Сустрэчу вёў у вельмі цікавы спосаб, на прыгожай беларускай мове дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі Аляксандр Карачун. На сустрэчы прысутнічалі польскія беларусы, якія пражываюць у Варшаве, у тым ліку студэнты з Беласточчыны, сябры Беларускага грамадска-культурнага таварыства, беларусы з Рэспублікі Беларусь, якія жывуць у Варшаве, у тым ліку працаўнікі амбасады, студэнты і выкладчыкі сталічных ВНУ, сябры арганізацыі „Беларуская нацыянальная памяць” і іншыя.

Спадарыня Алена Анішэўская спачатку распавяла сваю вельмі цікавую біяграфію, характэрную многім беларусам, выхадцам з Беласточчыны. Затым, прадставіла свае творы з двух зборнікаў вершаў і прозы: „Смак жыцця”, апублікаванага ў 1998 годзе Праграмнай радай штотыднёвіка „Ніва” і „Шчадруха”, выпушчанага ў 2009 годзе пры фінансавай падтрымцы Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы. Самае вялікае ўражанне зрабіў на мне верш „Наш Парнас”, у якім аўтарка ў гумарыстычны спосаб апісала плеяду сучасных беларускіх пісьменнікаў — грамадзян Польшчы. Я рэкамендую чытачам пазнаёміцца са зборнікамі твораў Галены Анішэўскай.

Пасля прэзентацыі адбылася цікавая дыскусія на літаратурныя і гістарычныя тэмы. У сакавіку гэтага года Культурны цэнтр Беларусі і Варшаўскі аддзел БГКТ плануюць сарганізаваць сустрэчу з чарговым пісьменнікам — беларусам, які жыве ў Варшаве — Дзмітрыем Шатыловічам.

**Георгі ЗЮЗЯ**

## „Кузня” скульптараў

Ужо чатырнаццаты год у самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) вядзе заняткі па скульптуры інструктар мастацтва Вольга Максімюк з Новага Ляўкова. На заняткі прыходзяць дзеці, моладзь і дарослыя. Адбываюцца яны ў панядзелкі і пятніцы ад гадзіны 15. Скульптуры выконваюць з гліны, якой поўна ў ляўкоўскім наваколлі. Чаго толькі скульптарыаматары не прыдумаюць! Мадэліруюць розных звяроў, змеі, кошычкі, кветкі, сэрцайкі, фігуры людзей, анёлкаў, рыбак, домікі, цэрквы...

У 2005 годзе ў ляўкоўскую святліцу завіталі экскурсанты ажно з Францыі і Нямеччыны. Яны ахвотна ўзяліся за лепку з гліны. Усе пяцьдзесят чалавек!

Штогод у святліцы ў Ляўкове адбываюцца гмінныя скульптурныя конкурсы. Удзельнічаюць у іх дзеці, моладзь і дарослыя з Нараўчанскай, Гайнаўскай і Чыжоўскай гмін. Узнагароды купляе дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы.

Зараз юныя скульптары — восем чалавек — рыхтуюць працы на конкурс „Маю талент”, які арганізуе Гайнаўскі дом культуры. Найлепшыя скульптуры падрыхтавалі чатыры асобы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Ласінянскі гарманіст

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Дзесяць кіламетраў на поўдзень ад Крынак, ля Свіслачы, на высокім узгорку, з якога відаць Рэспубліку Беларусь, раскінулася вёска Ласіняны. Яна, як усе астатнія вёскі калісь, была шматлюдная, вясёлая і вельмі музыкальная. Згэтуль выводзіліся найлепшыя на ўсю ваколіцу скрыпачы, бубначы і гарманісты. Цяпер тут не больш за пяць каміноў. Адзін з іх належыць апошняму ласінянскаму музыканту, народжанаму ў 1925 годзе **Анатолю Дарожку**. З яго талентам я ўжо пазнаёмілася амаль год таму, пры нагодзе пошукаў ведаў пра абрад валокання. Удалося мне тады сабраць невялікую грамадку азяранскіх і ласінянскіх жанчын, якія праспявалі некалькі велікодных песень пад акампанемент гармоніі спадара Анатоля.

У гэты раз мне замарылася запісаць мелодыі, якія гучалі калісь на святочных забавах. Да апошніх хвілін я не была ўпэўненая, ці ўдасца мне гэта зрабіць. Ці амаль дзевяностагадовы чалавек яшчэ ў змозе ўспомніць даўніну, ці хопіць яму сілы, каб гэта ўзгадаць на даволі вялікай і цяжкай гармоніі фірмы „Hohner”?

Адшукала я ў сваіх нататках нумар тэлефона. Трубку падняла жонка музыканта, якая адразу адмоўна адрэагавала на прапанову наведаць іхнюю хату з мэтай паглыблення маіх ведаў пра калісьняе. Яна сказала, што шукаць тут няма чаго, ніхто нічога нам тут не раскажа, бо памяці і толку ўжо ніякага ў іх не засталося.

Вельмі прыкра мне стала, пачуўшы такі адказ, але здавацца я не збіралася. Гэта ж апошні шанц разгледзець музычныя старонкі нашай гісторыі, апошні чалавек, якога мусова запісаць, захаваць для наступных пакаленняў. Рашыла папрасіць дапамогі ў ласінянскага солтыса, вельмі талковага маладога гаспадара — я была ўпэўнена, што ён не адмовіць.

Не паспела я дабрацца да солтыса, калі на самым пачатку вёскі, за сучасным, панскім, металёва-цагляным плотам пабачыла спадара Анатоля, шпацыруючага па сваім заснежаным панадворку, кругом абкладзенай навейшым сайдынгам саліднай хаты. Ён адразу пацікавіўся рэдкімі наведвальнікамі аддаленых ад галоўных дарог Ласінян. Прыемна мяне здзівіў псіхафізічнай формай, энергічнымі, амаль юнацкімі рухамі і рэакцыямі. Спадар Анатоль вельмі ўцешыўся неспадзяванымі гасцямі, паклоннікамі ягонай творчасці і таленту. Быў задаволены, што зноў, як паўвеку таму, зайграе людзям, падорыць ім сапраўдны святочны настрой даўняга часу. Штодзень ягоная гармонія з каробкі амаль не вылазіць — Анатолевай жонцы вельмі перашкаджаюць яе моцныя гукі. Каробку пакідае яна толькі ў рэдкія моманты адсутнасці гаспадыні — тады спадар Анатоль яднаецца з інструментам ад світанку да мараку.

Спадар Анатоль, чалавек не вельмі гаваркі, без усялякіх уступаў узяўся за справу.

Перламутрава-зялёны „Hohner” расклаўся перад намі ў сваёй багатай гукавой прыгажосці як велікодная пава, якую калісь спявалі паннам з пажаданнямі хуткага замуства. Відаць, гармонік не з адной печкі спажываў — клавішы ў сярэднім рэгістры гукаў найбольш спрацаваліся, набіраючы, у адрозненні ад іншых жоўта-перламутравых рэгістраў, снежна-белы колер. Паплылі акорды запісаныя ў памяці пальцаў амаль стогадовага гарманіста. Мелодыі незаўважна, без запінак, пераходзілі адна ў другую, як калісь на тутэйшых забавах. Загучалі лысы, падыспан, полька, каробачка, танго „Biały domek”, а найахвотней спадар Дарожка выконваў рускія вальсы: афіцэрскі, маньчжурскі, амурскі, „сізая галубка”, „на хвалях Дуная”, „На позицию девушка провожала бойца”. Загучаў англійскі вальс. Чыста беларускі рэпертуар гарманісту немагчыма было ўзгадаць. У час росквіту ягонай музычнай кар'еры нашы народныя творы лічыліся не вельмі моднымі, амаль архаічнымі; людзі, як і цяпер, стараліся ісці з духам часу, пільна, па меры магчымасці, сачыўшы за сусветнымі напрамкамі і модай.



У музычную дарогу адправіў быў малога Толіка ягоны бацька, купляючы яму першую, малюсенькую гармонію. Знаёмства з тайнамі тэхнікі ігры давалася зусім нялёгка. Мальцу мусова было адпраўляцца ў даволі сур'ёзнае падарожжа пяшком, з гармонікам на спіне (ровараў тут тады яшчэ не бачылі). Праз мост перасякаў ён Свіслач, каб дабрацца ў Рудаўляны, у якіх жыў добры музыкант і настаўнік Аляксей Гурын. Хадзіў ён таксама да Трахіма Клімовіча ў Свіслачаны, да Вані Валейчыка з Ёдзічаў. Усе яны ўжо даўно паўміралі і геапалітычны гарызонт вельмі абмежаваўся, забіраючы большасць найчасцей наведваных месцаў, перасяканых шляхоў, разрываючы тым самым моцныя сяброўствы, сямействы, дружбу, інтарэсы. З гэтай вучобай усяляк бывала. Некаторыя гарманісты зайздросцілі сваім вучням: баяліся, што ім заробак адбяруць, лепш за іх вывучацца іграць. „Часам заплаціш, ён штось хутка пакажа або і не пакажа, і адпраўляе назад дахаты. Адзін такі выманеў у мяне грошы, сказаў, што жонцы швейную машыну купіць хоча. Я яму занёс адпаведную суму, ён там трохі паказаў, але зараз яго ў турму забралі, і я ўжэ навучыўся!.. Перад гэтай бядой ён хлопцам забаву іграў, а сам дзяліў з суседам гумно, якое ніколі не зачыняў, і гэтыя хлопцы суседскае збожжа яму перакінулі і неўзабаве замальдавалі крадзеж; уласнік збожжа нават не паспеў зарыентавацца ў сітуацыі. Гарманісту за гэта пяць лет далі!”

Пачаткі кар'еры спадара Анатоля не былі кветкамі абсеяны. Бацькаў гармонік-малыш не надаваўся да вясковага іграння, а пра сродкі на пакупку сур' езнейшага інструмента нават не марыў. Будучы ўжо ў сур'ёзнейшым узросце, змог за 6 тысяч адкупіць ад брата вялікі нямецкі „Hohner”. „Брат на Шлёнску ў капальні рабіў. Аднаго разу, дзесьці па месцы ідучы, убачыў ён на выставе ў камісіёнцы інструмент па вельмі даступнай цане; новага ніхто б і не купляў. Брат сам зрабіў футарал, бо не было, мяшок абклеіў, бо быў пашарпаны, пасы змяніў і сюды ў вёску прывёз. Я папрасіў, каб мне пакінуў; шкадаваў, але потым прывёз. Гармонія мяшала яму ў гатэльным жыцці — не пайграеш, бо суседзі зараз скардзяцца, а і сціплае гатэльнае памяшканне яна завальвала. А тут яна мне была вельмі патрэбная на вясковае ігранне; вельмі громка, чула і лёгка на ёй іграецца”.

На вясельнае ігранне спадар Дарожка забіраў з сабою аднаго з ласінянскіх скрыпачоў Бяганскага або Раманюка (ужо не жывуць, дзеці вывезлі іх у Беласток і там яны памерлі). Часам на забавах падыгрывалі бубначы. Бубны былі самаробныя, мелі форму міскі абцягнутай шкурай; для іграння патрэбна была яшчэ і палка. Вядома, арганізатары танцаў стараліся, каб танней было, таму найчасцей запрашалі толькі двух музыкантаў. Спадар Анатоль ніколі не наракаў на недахоп заказаў. Чакалі яго ў Кантаўцах, Баброўніках, Крушынянах, Азяранах, Рудаках, Цюмічах, Клебанаўцах, Санніках. Калісь было каму іграць, людныя вёскі ахвотна весяліліся, спявалі, танцавалі. Як пачнуць у восем вечара, то закончаць у тры гадзіны ночы. Танцы ладзілі ў школах або па гаспадарскіх хатах. Хаця падкрынкаўскія вясковыя хаты невялікія, то месца заўсёды хапала, а трэба адзначыць, што людзей збіралася вельмі многа. „Калісь не было гэтага зламоцця, стаяў стол і сланэ. Нават відэльца не было, з адной міскі елі. Хатаў не раздзялялі, як цяпер, на невядома колькі пакояў. Крыху цеснавата было, але ніхто не наракаў. А цяпер хто ўпусціць? Як ужо да каго ўвойдзеш, то толькі ў кухню, а і то трэба разуваць”.

Праўду кажучы, у Ласінянах няма ўжо да каго зайсці. Мае цікаўныя ногі пакінулі ў той дзень адзінокія сляды на заснежанай вясковай вуліцы.



„Світанак” з Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку

# Беларуская песня — гала ў драмтэатры

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

**Каля трохсот выканаўцаў беларускай песні адрэкамендавала сябе 26 лютага на гала-канцэрце XIX Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня-2012”, які як спявацкі конкурс праводзіцца ўжо 43 гады Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы. Пасля адборных павятовых аглядаў у Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Сямятычах, Беластоку і ў Дуброве-Беластоцкай на цэнтральным аглядзе тыдзень раней з рэкорднага ліку 92 выканаўчых адзінак трыццаць з іх было адабрана на гала-канцэрт. У цэнтральных элімінацыях фестывалю прынялі ўдзел 25 салістаў, 4 дуэты, 5 трыо, 4 квартэты, 24 вакальныя калектывы, 8 вакальна-інструментальных калектываў, 7 эстрадных калектываў, 5 хароў. На сцэне драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку прэзентавала сябе 26 хароў, калектываў і салістаў, лаўрэатаў першых месцаў.**

Галоўным пераможцам фестывалю, лаўрэатам Гран-пры стаў калектыў настаўніц „Світанак” з Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку. У катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні перамагла салістка Марыя Врублеўская з Гарадка, сярод дуэтаў, трыо, квартэтаў — сямейнае трыо з Макаўкі ды квартэт „Жэмэрва” са Студзівод. У катэгорыі апрацаванай фальклорнай песні перамог квартэт „Арляне” з Орлі, а з вакальных калектываў — жаночая група „Крыніцы” з Беластока, жаночая група „Чыжавян” з Чыжоў, з вакальна-інструментальных калектываў — жаночая група „Маланкі” ды мужчынская група „Маланкі” з Бельска-Падляшскага. З эстрадных калектываў на першым месцы апынуўся калектыў „Знічка” з Гайнаўскага белліцэя. У сучаснай песні перамаглі салісткі Дар'я Маркевіч з Гайнаўкі і Марта Маліноўская з Бельска-Падляшскага, з вакальных калектываў — „Рэчанька” з Козлікаў і калектыў „Спадчына” з Бельскага белліцэя. Гурт „Дэкада Банд” з Беластока і Падляшская капэла з Сямятыч былі найлепшымі сярод вакальна-інструментальных калектываў. Сярод эстрадных калектываў найлепшымі былі калектыў „Калінка” з Беластока і Студыя эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры. Хор „Загадка” з Супрасля перамог сярод хароў. На гала-канцэрце не пералічваліся ўзнагароды выступаючых — найлепшых з найлепшых. Апрача іх адрэкамендавалі сябе яшчэ калектыў „Арт-Пронар” з Нарвы (падтрымлівае яго адзін са спонсараў фестывалю), „Каласкі” з Беластока, эстрадны „Ас” з Беластока, „Расспяваны Гарадок”, „Ручаёк” з Белавежы, новы гурт „Гай” з Беластока, дэбютанткі Дарота Леснік і Юстына Давідзюк з Рыбалаў. Найбольш чаканы зоркі фэсту — ансамблі — віруючыя ў танцы „Белыя росы” з Гродна і „Камерата” (спяваючая а капэла ад фальклору праз класіку па джаз) з Мінска выступілі, дзякуючы падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.



Спонсарамі фестывалю, апрача Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, Гарадской управы Беластока, Культурнага цэнтра Беларусі, былі таксама суполка „ПроНар” з Нарвы, „МІПА” з Беластока, кааператыў „Падляшсе” з Беластока, „АСТВА”, кааператыў „Кантрактус”, Аліна і Валяр'ян Мархелі з Ігнатак, суполка „УНІБЭП” з Бельска-Падляшскага, Вышэйшая менеджарская школа ў Беластоку, суполка „Самаш” з Беластока, Кааператыўны банк з Беластока, Анатоль Цімашук з Беластока і Славамір Рыбак з Нурца-Станцыі.

На перапоўненай публікай глядзельнай зале былі прысутныя, прывітаныя ўрачыста старшынёй Янам Сычэўскім, прадстаўнікі дыпламаты Беларусі, чыноўнікі міністэрстваў культуры і адукацыі Беларусі, спонсараў, працаўнікі адміністрацыі Падляшскага ваяводства і Гродзеншчыны, горада Беластока, самаўрадаў розных узроўняў, арміі і Царквы. Зачытаны былі віншавальныя лісты м.інш. ад мітрапаліта Савы і міністра культуры РБ Паўла Латушкі. Сярод віпаў бачыліся аматары беларускай культуры менш і больш вядомыя ў твар не толькі з нагоды свят, любіцелі не толькі песні. Большасць тэатральных радоў і дастаўленых крэсельцаў запоўнілі аднак вялікія любіцелі беларушчыны, якіх не адпалохала цана білетаў, якія раскупіліся былі ў адзін міг. А з-пад тэатра адышла няўцешная вялікая змерзлая група тых, якія не змаглі набыць білетаў, ці якім не ўдалося іншым чынам пранікнуць на гэты найважнейшы ў годзе беларускі івент.

— Усіх нас прысутных у гэтай зале прызывае і яднае беларуская песня, — адзначыў Ян Сычэўскі. — Любоў да песні гэта адвечная адметнасць беларускай душы. Песня з'яўляецца неад'емным спадарожнікам беларуса на працягу ўсяго жыцця. У шчасці і ў горы, у святы і ў звычайны дзень. Песня перамагала сум, клопаты і стомленасць. Песні разлягаліся на палях і рэхам адгукаліся па суседніх вёсках. Вось і гэта наша беларуская спадчына, святая традыцыя, якую зберагаюць у нас розныя пакаленні ад дзіцячага садка, да самых пажылых выканаўцаў. Хачу звярнуць увагу на своеасаблівасць сённяшняга канцэрта. 26 лютага 1956 года на першым з'ездзе ў Беластоку было пакліканае да жыцця Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Сёння нашаму таварыству спаўняецца 56 гадоў існавання і актыўнай працы на карысць беларусаў Беласточчыны і ўсёй Польшчы. БГКТ ад пачатку і да гэтай пары з вялікай пашанай адносіцца да захавання і развіцця нашай беларускай народнай спадчыны... Хачу таксама вельмі падзякаваць павятовым, гарадскім, гмінным органам самакіравання, асяродкам і дамам культуры ў ваяводстве за добрыя, спрыяльныя сувязі з БГКТ і за плённую дзейнасць разам з калектывамі аматарскай самадзейнасці...

Адно шкада — не было на свяце ні „Зараніцы” з Крынак, ні „Калінкі” з Залук Гарадоцкай гміны.

## У дадатак да выдання кніжкі „Марылька”

У справаздачы Аляксея Мароза „Марылька жыве ў нашай памяці” заснавалі фактаграфічныя пераасэнсаванні. Паводле шаноўнага калегі, матэрыялы пра Марыльку меў сабраць Мікола Ваўранюк, ён жа напісаў успаміны пра яе і стаў рэдактарам выдання. У гэтым сцвярджэнні парадаксальная недакладнасць, паколькі галоўныя матэрыялы, значыць, вершы Марыі Базылюк, тэле- і радыёжурналіст Мікола Ваўранюк не сабраў — а зрабіў падборку! Сам ён, дарэчы, гэта адзначыў у час свайго выступлення ў бельскай ратушы.

Праўда, акалічнасці звязаныя з узнікненнем кнігі нідзе не пазначаны, таму лічу сэнсоўным данесці іх да агульнага ведама. Як добра памятаю, ідэя выдання кніжкі ўзнікла ўжо пад канец XX стагоддзя. Яе прыдумаў і часткова ажыццявіў мастак Лявон Тарасэвіч. Першай задачай было сабранне паэтычнай спадчыны Марылькі. Справай добраахвотна занялася Іаанна Марко (Якубовіч), у прыватнасці вучаніца Марылькі Базылюк-Саснюк. Яна пазбірала ўсе публікацыі, надрукаваныя ў „Ніве” і „Сустрэчах”, дайшла да непублікаваных твораў захаваных у архівах „Нівы”, частку атрымала ад сям'і сваёй настаўніцы. З таго перыяду запамяталася мне шчырая і вялікая ангажаванасць Асі, яе пошукі, дбайнасць пра кожны рукапіс. Пасля, калі яна з'язджала ў ЗША, усю падборку перадала ў мае рукі.

Аляксей Мароз піша, што кніжка чакала чатыры гады свайго выдання. На самай справе працэс пачаўся раней. Ды дзіўная рэч тут адбылася. Яшчэ да таго, калі АБ-БА вырашыла выдаць кніжку (усе матэрыялы я перадала на рукі старшыні гэтага аб'яднання), падобная ідэя ўзнікла ў Літааб'яднанні „Белавежа”. Як не цікава, выданне было запланаванае на той самы год! Апошняя акалічнасць, з прысмакам здаровай канкурэнцыі, напэўна паспрыяла якасці і мастацкаму ўзроўню выдання. Кніжка „Марылька”, калі ідзе пра яе мастацкі бок і афармленне — з'ява на кніжным выдавецкім рынку, не толькі беларускім, але і еўрапейскім. Напэўна паспрыяла гэтаму таксама ініцыятыва Барбары і Міраслава Пякарскіх, якія прафінансавалі выданне. У гэтым кантэксце, калі гутарка пра шляхетнасць, нельга таксама забывацца пра вялікую працу і ангажаванасць Іаанны Марко, у прыватнасці, класнай настаўніцы беларускай мовы.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## ЗАПРАШЭННЕ

**З цыкла размовы аб: .... Пагранiччы**

**„Тандэмам праз пагранiчча”**

**Дэманстрацыя фільма і сустрэча з аўтарамі праекта Паўлам Міцкевічам і Радаславам Дамброўскім**

**Сардэчна запрашаем!**

**Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка” Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2**

**09.03.2012 г. гадз. 18:00**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Паэзія — каханне жыцця




„Чалавек і прырода — адвечныя сябры. Так думае Уладзімір Гайдук, беларускі паэт з Тарнопаля. Наведалі мы яго ў халодны лютаўскі дзень. Сядзіба паэта знаходзіцца ў лясным урочышчы Полымя. Не дзіва, што ў такім месцы нараджаюцца паэты! Зачаравала нас прыгажосць краявіду, стройныя елкі і буслінае гняздо на хаце. Уладзімір Гайдук, як і ўсе жыхары Тарнопаля — земляроб. Свой першы верш напісаў у дзесяць гадоў. Крыніцай натхнення сталі здарэнні, якія моцна кранулі ўражлівую душу дзіцяці. Літаратурны дэбют прыйшоў намнога пазней. Верш „Пазнаёмімся” паказаўся ў „Ніве”, калі будучаму паэту было 15 гадоў.

— Каб пісаць добрыя вершы, трэба пазнаёміцца з літаратурай, — сказаў нам Уладзімір Гайдук.

Сам, будучы маладым чалавекам, прачытаў многа класічных твораў. Яго літаратурнымі аўтарытэтамі да сённяшнія сталіся Аляксандр Пушкін, Якуб Колас, Янка Купала. У вершы паэт найбольш цэніць лёгкі сюжэт і глыбокі сэнс. — Не штука пісаць многа, — адзначыў літаратар, — штука пісаць добра. Паэт можа ўвайсці ў літаратуру нават з чатырма добрымі творамі.

Уладзімір Гайдук выдаў два лірычныя зборнікі — „Ракіта” і „Блакітны вырай”. Сам ён — член Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа”.

Сустрэча з паэтам выклікала ў нас вялікія ўражанні. Спадабаўся нам гэты ўражлівы, адкрыты чалавек. З хваляваннем выслухалі мы яго трапных крытычных уваг на тэму нашай творчасці. Паэт не належыць да тых, што беспадстаўна хваляць пачаткоўцаў. Заахвоціў нас пісаць, хаця не скрываў перад намі, што лёс беларускага паэта — нялёгкі. Пачуўшы аповед пра самотнае жыццё ў болі паэта-земляроба, мы задумаліся. Паэт захапіў нас не толькі сваёй шчырасцю, але і паказаў нам дарагія свайму сэрцу месцы — стройныя елкі, вавёрчына дупло, месца, дзе збіраюцца зубры. Дзякуючы паэту мы навучыліся звяртаць увагу на кожную дэталь акружаючай прыроды.

„Калі чалавек забываецца пра прыроду — дзічэе”, — прыгадвалі мы словы У. Гайдука, ідучы дамоў засыпаной снегам лясной дарогай. І калі мы пісалі пасля пра нашу сустрэчу ў Полымі, ведалі, што натхненне падарыў нам паэт Уладзімір Гайдук.

**Аня Садоўская, Жанэта Роля, Міхась Дзмітрук і Ганна Кандрацюк, III Сустрэчы Зоркі, Бандары, 12-17.02.1996 г.**

---

**Наталля МАРЧУК, Нараўка**

## Неба і хмары

*Адкрый шырока вочы
Удзень, не ўночы.
Вецер гоніць хмары
А гэта што? Чаааары!*

*Па небе высокім
Цудныя абłокі:
Раз малы сабачка
Раз качка-дзівачка.
Раптам з белай хмары
Паўсталі пажары!*

*На пушыстым дыване
Велізарны дуб расце.
Побач арэхаў горка,
Ёсць агністая вавёрка.
Мы заплюшчым хутка вочы.
Звярок з хмаркі не саскочыць!..*

## Сонца

*Калі я ішла дадому вечарам
Сонца са мной ішло цераз поле
І цераз дарогу
Пры маёй галаве,
Мала не выкупалася ў рацэ!
Са мной у агарод пагоніш,
Гоп, гоп! – скачаш па слівах.
Да кухні хацела скочыць цераз акно,
Я прычыніла акно і свае вочы.
Цяпер стаіць з другога боку
І адпачывае.*

*А пасля вячэры сонца... прапала.*

## Коцік

*Коцік, коцік, у цябе...
Жоўценькі жывоцік,
Карычневыя лапкі,
Як вочы ў бабкі.
Штодзень коцік
Мае пусты жывоцік.
Бабка яму малачка налівае
А ён лапкай яго разлівае.
Ах ты коцік, коцік,
Вялікі ты псоцік!
Бабуля ката праганяе
І дахаты яго не ўпускае!*

**Марта ЛУКША, Баб’я-Гара**

## Пачуццё

*Адзінокая бярозка
Адплывае ў летуценнях
І час калі кахала
Зеленавокага
Чорнавалосага
Салдата.
Душой хоча пачуць
Пах яго цела
Гук яго вуснаў
Біццё яго сэрца
Крананне яго рукі
Словы
Аднак...
Мары адплываюць
З абуджэннем сонца.
А яна...
Чакае...
Ці прыйдзе ён?
Бярозка?
Не, сінявокая дзяўчына.*

## Салдат

*Цераз чорныя бары
Цераз цёмныя лясы
Маршыруе салдат барадаты
Хоча дайсці да роднай хаты.
Ён у арміі доўга служыў,
Радзіму ад ворага бараніў.
На палігоне трэніраваўся
І ніколі не баяўся.
Як толькі да хаты дабраўся
Дык хутка пад коўдру схаваўся.*

## Разважанні

*Не хапае мне натхнення,
Але калісьці можа
Адкажу на твае пытанні
І...
Спойняцца мае мары.
Калісьці ты быў маім шчасцем.
А кім для цябе я?
Нічым важным...
Хвілінкай забыцця.*

*Давід ЯЦКЕВІЧ, Нараўка*

# Воблакі

*Неба сіняе, неба чорнае –*
*Аднак зайсёды прыгожае.*

*Воблакі белыя ў небе гуляюць*
*Розныя формы яны набіраюць.*
*Сонца свеціць,*
*Праменні гуляюць,*
*А белых хмарак не праганяюць.*
*Людзі з цікаўнасцю ў неба глядзяць:*
*Вoўк гоніць зайца, а воўка ліса!*

*Раптам халодны вецер падзьме*
*І белыя хмары ён пражане.*
*Сонца не свеціць,*
*А дождж ідзе,*
*Чорная хмара хмару тайчэ!*

*Белыя з чорнымі хмары змагаюцца –*
*Тады ўжо людзям не падабаюцца!*




# Музыка з кайфам

## Трэба мець Арт-душу!

Яшчэ ў час інтэнсіўнага калядавання, здесьці ў палове снежня, Тамаш Суліма, які зараз займаецца арганізацыяй і прамоцыяй дзейнасці Музея малой айчыны ў Студзіводах, нагадаў у размове пра ідэю адкрытай хаты ў Бельску-Падляшскім, якую намервае стварыць у будучыні. Будзе гэта месца для больш ці менш нефармальных сустрэч, культурных спатканняў, мастацкіх прэзентацый, месца, у якім можна жыць і хочацца быць. Зразу гэтая ідэя нагадала мне галерэю ZOYA, зладжаную ў звычайнай кватэры ў цэнтры Варшавы, якая яшчэ не так даўно вельмі актыўна працавала ў карысць прамоцыі беларускай культуры. Гэтыя ўсе думкі і асацыяцыі выдатна падводзіць ідэя месца, якое пакуль працуе і развіваецца ў беларускай сталіцы. Невыпадкова кажу „пакуль", бо і ў вас павінна з'явіцца свядомасць, што Беларусь сёння гэта краіна, у якой свабода культурнага жыцця вельмі абмежаваная. Таму менавіта ўзнікаюць месцы і мерапрыемствы па сваім характары наполову, а можа і ў большым адсотку, прыватныя.

Неўзабаве цяжка будзе пералічыць беларускіх мастакоў, якія наведалі новую Арт-сядзібу ў Менску, бо падзеі там разгортваюцца вельмі спраўна. Калі закрываюць дзверы культурных устаноў такім выдатнікам, як Зміцер Вайцюшкевіч, тады трэба шукаць іншых, магчыма, лепшых варыянтаў. Арт-сядзіба бязумоўна стварае такія магчымасці. У час „Дня закаханых" можна там было сустрэць анёлкаў з крыламі, пачытаць вершы, паглядзець кіно. На мінулым тыдні прайшоў там „Дзень радасці". У журналістыцы гавораць, што найлепш паведамляюць пра тое, што зараз або неўзабаве, але важныя падзеі трэба адзначаць нават калі яны ўжо за намі. „Дзень радасці" падтрымалі і зграданы Вайцюшкевіч, і Паліна Рэспубліка, зараз самая папулярная беларуская бардэса, а таксама гурты „Босае Сонца" і „Рэха". Тут сутыкаецца цікаўнасць „Музыкі з кайфам" з дзейнасцю Арт-сядзібы, бо канцэрты і музычныя выданні нас тут цікавяць найбольш! Так знакамітыя музыкі паявіліся ў „Дзень радасці" не толькі таму, што прычын для радасці апошнім часам у Беларусі не так шмат, але таму, што сустрэча мела характар харытатыўнага канцэрта. Усе працавалі на тое, каб дзеці з дамоў-інтэрнатаў маглі прыехаць у сталічны цырк. І проста радавацца. Для такіх ініцыятыў трэба мець *Арт-душу!*

**i_basovka@o2.pl**

# Конкурс пра вясну (10)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якія кветкі расцвітаюць у першыя сонечныя дні, на зломе зімы і вясны?**

*а) дзьмухаўцы,*
*б) рамонкі,*
*в) сон-трава.*

**2. Як называем абрад аблашчвання прабуджанага мядзведзя, які нашыя пушчанскія продкі ладзілі на зломе зімы і вясны (падказка: трэба было вылушчыць камы гароху і пакачацца па зямлі)?**

*а) Камаедзіца,*
*б) Масленіца,*
*в) Карагод з кустом.*

**3. Хто герой літаратурнага нарысу „Паэзія — каханне жыцця", напісанага ўдзельнікамі III Сустрэч „Зоркі" (падказка: глядзіце альбом-архіў: e-zorka.pl)?**

*а) Мікола Гайдук,*
*б) Алесь Барскі,*
*в) Уладзімір Гайдук.*

**4. Калі і дзе выйшаў першы нумар „Ніві" (глядзіце каляндар „Нівы"?)**

*а) 4 сакавіка 1956 года ў Беластоку,*
*б) 25 сакавіка 1918 года ў Мінску,*
*в) 6 ліпеня 1991 года ў Варшаве.*

Адказы дасылайце да 18 сакавіка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 7:** Графічным сімвалам Свята закаханых „Валянцінак" з'яўляецца чырвонае сэрцайка (в); святы Валянцін лічыцца апекуном псіхічна хворых і божых шаленцаў (б); аўтар рамана „Нельга забыць" — Уладзімір Караткевіч (б); мянушка „Пане Каханку" належала Каралю Станіславу Радзівілу (в); старажытнае славянскае свята кахання — „Купалле" (в).

Узнагароды — кніжку „Ой даўно, даўно" — выйгралі **Моніка Раманюк** і **Раксана Авярчук** з Арэшкава; кніжку Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа „Беларусь далетапісная" выйграла **Эльвіра Андрусевіч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

**ЗОРКА**



# Вершы Віктара Шведа

## Каго называем турыстам?

Настаўнік пытае
Сваіх гімназістаў:
— Каго называем
Сапраўдным турыстам?

Адказвае Дзіма:
— Таго, хто без прычыны
Едзе ў свет каб здымак
Зрабіць ля сваёй машыны.

## Хто гэта альпініст?

— Ты ўжо гімназістам
І ведаць павінен
Каго альпіністам
Завуць безупынна.

— Той, хто ў страшнай зморы
Узыходзіць на горы,
Дзе захапляцца можа,
Як унізе прыгожа.

# Польска-беларуская крыжаванка № 10

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыгрыем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6:**

Бор, муж, ла, цуд, дзева, урад, анёлак, здароўе, трава, акр, твар, ара, на. Кіт, задача, Лена, вавёрка, ало, аўтар, цукерка, мур, удар, мама.

Узнагароды, CD „Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі", выйгралі **Альжбета Харкевіч, Паўліна Лаўнічук, Карнелія Барэчка** з Нараўкі, **Патрыцыя Міхальчук, Габрыель Кузьміч, Эльвіра Андрусевіч, Магда Міхалевіч** з Бельска-Падляшскага, **Войтэк Куптэль, Магдалена Мішчук** з Арэшкава, **Каміль Несцярчук** з Дубін. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Strąk / Tu | Tęsknota | Mól | Siła | | Polana / Solo | |
| | | | Kolonia (posiadłość) | | | | |
| | Spe-cjalizacja | | | | | Niania | |
| | Zabawa | | | | | | |
| | | | | | Jan | | |
| Krata / Rock | | | | | Bierz | | |
| Kurczak | | | | | | | |




Адышоў у вечнасць на 71 годзе жыцця паэт-земляроб **Уладзімір Гайдук**. Нарадзіўся ён 7 верасня 1941 года ў вёсцы Тарнопаль, на хутары Полымя, у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета, у сялянскай сям'і. У 1955 годзе скончыў пачатковую школу і два гады вучыўся ў беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім. У сярэдзіне 1960-х спрабаваў прадоўжыць адукацыю ў беластоцкім завочным ліцэі, аднак цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымусілі адмовіцца ад задумы. Гаспадарыў усё жыццё на хутары. Першыя вершы Уладзімір Гайдук напісаў яшчэ вучнем пачатковых класаў. Дэбютаваў у 1956 годзе ў „Ніве" лістом-вершам „Пазнаёмімся" і вершамі „Захад сонца" і „Зіма ідзе". Аўтар кніг паэзіі „Ракіта" (Беласток, 1971), „Блакітны вырай" (Беласток, 1990), „Пах аернага хлеба" (Беласток, 1998), „Полымя роднае" (Беласток, 2010). Развітанне з Уладзімірам Гайдуком адбылося 25 лютага ў царкве ў Старым Ляўкове.

* * *

*Крылы не толькі дадзены арлу.*
*Мае іх вецер і казка,*
*І думка мая, што паліць сум*
*І дорыць шчасце.*

*І толькі з крыніцы жывой вады*
*Песні ўдалося выдаць чар-звон,*
*А людзям хопіць адной слязы –*
*На ўсё жыццё.*

* * *

*Такой хвіліне сэрца аддаю,*
*Што вечна будзе свежай на паперы,*
*А словы, бы на камені разьбу,*
*Ні бура, ні агонь не пераменяць.*

*Свaім пaвaбам, шчырасцю сваёй,*
*І радасцю, і горкімі слязамі, –*
*Будзеш хвіліна простай і жывой,*
*Ператрываеш цэлымі вякамі.*

* * *

*Я не вінаваты,*
*Ты не вінавата,*
*Што ўначы мне сніцца*
*Палявая мята.*

*Што ўначы мне сніцца*
*У жыце валошка*
*І твая сукенка*
*У сінія гарошкі.*

*Шаптала калоссе,*
*Шчасце варажыла;*
*Прытуляў да сэрца*
*Я цябе, дзяўчына.*

*На мяжы травіца,*
*Як дыван шаўковы;*
*Губы, як крыніца,*
*На магнітным полі.*

*Я не вінаваты,*
*Ты не вінавата,*
*Што была нам сватам*
*Палявая мята.*

* * *

*Мой лёс –*
*Белы мой анёл,*
*А ночы –*
*Чорная смерць*
*Штораз часцей з гадамі*
*Як цень, за мной ідзе.*

*Я ў пошуках жыву,*
*Стамлёны,*
*З года ў год*
*Перасяваю сум*
*І думак горкі рой.*

*Яшчэ хвілінку,*
*Міг мне падары, жыццё,*
*Наперад дай хоць крок ступіць,*
*Ты – белы мой анёл.*

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

# Сяргей Крывец — вакол вядомага і невядомага

З радасцю ўспрыняла я тэкст Язэпа Палубяткі ў „Ніве" № 7 ад 12.02.2012 г. „Сяргей Крывец: беластоцкі творчасці ўзлёт". З надзеяй чакала нечага новага напісанага, здаецца, таксама і новым „нііўскім" аўтарам. На жаль, шмат з таго, што дасюль няяснае, надалей застаецца такім жа. Ужо больш за 20 год турбуюць мяне крайнія даты жыцця паэта, неабыякавага ў канцы для беларусаў Беласточчыны, пра што і напісаў аўтар артыкула, далучаючы вершы беластоцкага перыяду. Аднак, нягледзячы на час, які мінуў ад выдання зборніка вершаў Сяргея Крыўца „Дубок" (1972 г.), далей невядома калі ён і дзе нарадзіўся. На жаль, ва ўсіх даведніках і на інтэрнэт-сайтах падаецца толькі год нараджэння паэта — 1909. А якога дня і месяца — надалей застаецца загадкай. А ці нарадзіўся ён у Дубне, ці ў Сухінічах, ці магчыма ў Лунне, відаць, нікога зараз не турбуе. Кожны піша як хоча.

Наогул няшмат вядома і пра беластоцкі перыяд Сяргея Крыўца з 1933 па 1944 год. Добра, што да выдання яго спадчыны прычыніліся Максім Танк ды Рыгор Шырма, якія асабіста ведалі паэта і сабралі яго спадчыну. Беластоцкі перыяд, паводле публікацыі ў „Ніве", канчаецца з пачаткам нямецка-савецкай вайны. І вершы (апрача аднаго), якія апублікаваныя ў „Ніве", таксама з гэтага перыяду, хаця рэдакцыяй дададзена, што друкаваўся ў „Новай дарозе" — беластоцкай беларускай газеце перыяду нямецкай акупацыі. Вядома, што рэдагаваў яе Хведар Ільяшэвіч — паэт, гісторык, настаўнік. Магчыма, паэты былі знаёмыя з даваеннага часу, ці з 1939-1941 гадоў. Тады Сяргей Крывец вучыўся ў Беластоцкім настаўніцкім інстытуце, у якім працаваў Хведар Ільяшэвіч. Чытаючы апублікаваныя ў „Ніве" вершы з гэтага перыяду, відаць у іх уплыў Хведара Ільяшэвіча. Магчыма, ён іх правіў ці дапрацоўваў. Але варта больш месца прысвяціць публікацыям Сяргея Крыўца ў „Новай дарозе". У № 10 ад 31 мая 1942 г. надрукаваны яго верш, падпісаны С. Табалін:

* * *

*Расьцьвітае сад прыгожа*
*У арамаце буйных рос,*
*Месяц коціцца з-за хмарак*
*Па акраіне нябёс;*
*Выйшлі зоркі карагодам —*
*Сыплюць серабро на ніз,*
*Сіняватым, лёгкім дымам*
*Над ракой туман павіс.*
*Салавейка ўжо шчабеча*
*Пра юнацтва і вясну: —*
*Я пайду яго паслухаць,*
*Бо ўсёроўна не засну.*
*Пайду слухаць, як ціхенька*
*Пачынае сэрца ныць,*
*І пад песьню салавейка*
*Я паклічу свае сны:*
*Дзе-ж вы сны майго юнацтва?*
*Дзе вясна маіх гадоў?*
*Не пакінулі вы сьледу*
*Між квітнеючых садоў...*
*Чарнабровая дзяўчына,*
*Выйдзі, сэрцайка, ка мне, —*
*Мы ў гэты ціхі вечар*
*Пагаворым аб вясьне...*
*Раскажу табе пра тое,*
*Як я жыў і як жыву,*
*Як з краіны ясных мрояў*
*Сны прыходзяць на яву.*

У № 25 ад 13 верасня 1942 г. гэты сам аўтар апублікаваў апавяданне „Даведаўся..." пра жыда Іцка з Лунны. Там жа таксама і верш „Рэчка", падпісаны Сяргеем Крыніцкім. Ці ж гэта і не ёсць Сяргей Крывец?

*Гэй, ты, рэчанька-красуня,*
*Куды так сьпяшаеш?*
*З ціхім плескам, шапатуньня,*
*Дом мой абмінаеш.*
*Не сьпяшайся, пагаворым —*
*Сэрцу майму сумна.*
*Усё хаджу я быццам хворы,*
*Ты-ж плывеш так думна.*
*Весела і гаварліва*
*Ты плывеш праз сёлы.*
*На'т у гэты час бурлівы*
*Чуеш сьмех вясёлы.*
*Бачыш гора, бачыш радасьць,*
*Чуеш песьні звонкі.*
*Божа, Божа! Як панадна*
*Харашыць старонку!*
*Заплывi-ж ты на радзіму*
*Пад родную хату.*
*Перадай паклон ад сына*
*Матачцы ды брату.*
*Хоць ня суджана мо' бачыць*
*Ні маці, ні брата;*
*Мо сярод двара маячыць*
*Згарэўшая хата.*
*Перадай паклон нізенькі*
*Хатняму парогу.*
*Ды скажы, што я барзенька*
*Сабярусь у дарогу.*

Сяргей Крывец падпісаўся пад справаздачай („Новая дарога" № 30, 18.10.1942 г., с. 3) з канцэрта Міхася Забэйды-Суміцкага ў Ваўкавыску, які адбыўся 10 кастрычніка 1942 г. Пачынаецца яна вершам:

*У жыцьці ёсьць многа злых хвілін,*
*Ды ў гэты час, у гэту пору*
*Народных песьняў і былін*
*Краса нам служыць за апору.*
*Спакон вякоў пяе народ*
*І песьні б'юць жывой крыніцай.*
*Мы плыні тых крыштальных вод*
*Сьпяшым з прыемнасцю напіцца.*

Сяргей Крывец канчае сваю справаздачу таксама вершам:

*Бо вып'еш коўш душэўнай брагі —*
*Ізноў гатоў, як волат у байцы,*
*З нязломнай сілай і адвагай*
*Ісьці ў бой далей змагацца.*
*І што было-б з беларуса,*
*Хаця-б цяпер, у нашу пору,*
*Каб ня цудоўная краса*
*Яго магутнага фальклёру?*

Дарэчы верш „Перастань", які змешчаны ў „Ніве" без пазначэння даты, быў апублікаваны ў „Новай дарозе" № 27 ад 27 верасня 1942 г. і падпісаны „С. Т.". А ёсць яшчэ ў „Новай дарозе" і іншыя вершы і тэксты публіцыстычнага характару. Такім чынам нельга ніяк абмінуць сувязей Сяргея Крыўца з „Новай дарогай" і яе галоўным рэдактарам Хведарам Ільяшэвічам. Ці ў перыяд вайны быў паэт у Беластоку ці не — таксама падаецца па-рознаму.

Ва ўсіх беларускіх даведніках і на сайтах падаецца, што ў 1944 г. пасля вызвалення Беластока быў прызваны ў Савецкую Армію і загінуў (або быў паранены) у красавіку 1945 г. падчас штурму Гдыні. Паверыўшы ў напісанае, яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў, ходзячы па могілках савецкіх воінаў у Гдыні, дарма мы шукалі яго магілы. Нідзе яе не было. Адкуль узялася такая вестка? Першым, што выклікала сумненне, была несапраўдная інфармацыя пра красавіцкія баі за Гдыню. Гдыня была вызвалена Савецкай Арміяй ужо 28 сакавіка 1945 г.! Прытым гэта агульнавядомы факт. Некалі, размаўляючы з былым генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Гданьску Міхалам Аляксейчыкам, я звярнула ўвагу на гэтыя абсурдныя запісы ў беларускіх даведніках, якія перапісваюцца з выдання ў выданне, без роздуму. І тады спадар Міхал дапамог сваімі запытамі выявіць ужо ў 2000 г., што ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі захоўваюцца дакументы пераліку страт салдат Савецкай Арміі. Паводле іх „стралок 731 стралкавога палка радавы Крывец Сяргей Міхайлавіч, 1909 г. нар., ураджэнец Гродзенскай вобласці, вёскі Лунна, прызваны ў Савецкую Армію Ваўкавыскім РВК памёр ад ран 13 мая 1945 г. у ЭГ-2222 [Эвакуационный госпиталь № 2222 — рэд.] і пахаваны у Хойніцах". У сувязі з гэтымі дадзенымі пад сумненне падпадае таксама месца нараджэння паэта — тут жа ўказана Лунна, а не Дубна. І ясней становіцца дата яго смерці, хаця дагэтуль усюды падаецца 28 красавіка. Перагледзеўшы, аднак, імянны спісак загінуўшых і памерлых у 1945 г. на Хойніцкай зямлі, не ўдалося знайсці сярод іх Сяргея Крыўца. Але ж дзесьці на Памор'і так ці інакш быў пахаваны беларускі паэт. Максім Танк прысвяціў яму верш, пішучы, што загінуў ён у баях за Паморскі вал (гэта лінія нямецкіх умацаванняў з 1937 г. на лініі Дрэздэнка — Валч — Белы Бор). Паколькі няма ў мяне арыгінальнага гэтага верша, прапаную яго ў перакладзе на польскую мову Леапольда Левіна (L. Lewin, *U przyjaciół*, Kraków 1966, s. 363):

* * *

Pamięci młodego poety białoruskiego, Krywca, który zginął w szeregach Armii Radzieckiej w walkach o Wał Pomorski.

*Stu sześćdziesięciu bardów opłakało*
*Przed stuleciami śmierć Lope de Vegi.*
*A nam się pieśnią uczcić nie udało*
*Wśród śnieżnych zasp poległego kolegi.*
*Zginął za wolność — na okopy wrogie*
*Wpadliśmy z jego pieśnią w bitwy dymie,*
*By naszej zemsty bezlitosnej ogień*
*Rozsławił drogie towarzysza imię.*
*Dział sto sześćdziesiąt wytoczyli śmiało*
*Chłopcy wśród ognia na linię frontową,*
*I ten, co zginął, słyszał, jak zagrzmiało.*
*Niebo, wstrząsane ich pieśnią szturmową.*
*Tam, gdzie mogiła jego w gęstym lesie,*
*Masztowych rośnie sto sześćdziesiąt sosen;*
*Puszcz białoruskich sto sześćdziesiąt pnie się*
*I po nim szumi skarżącym się głosem.*
*Żałosnym szumem płynie pieśń ich leśna,*
*Do ziem najdalszych przestworzem dociera,*
*Tak samo wieczna, tak samo bezkresna,*
*Jak nieśmiertelna sława bohatera.*

Цікава было б прачытаць гэты верш у арыгінале. Ім Максім Танк увекавечыў трагічную смерць маладога беларускага паэта, трагічную перш за ўсё тым, што невядомая яго магіла і, здаецца, мала каму цікава, дзе яна ёсць. І дзе нам да тых 160 бардаў, якія апявалі смерць Лопэ дэ Вэгі. Добра, што знайшоўся хаця Максім Танк.

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Вакол Адрынок

„Праўдзівае краязнаўства — гэта не слізганне ў мяккіх тапачках па навасканаваных да бляску паркетах музеяў, выставак ці палацовых залаў, але перш за ўсё вандроўка па такіх сцежках-дарожках, дзе не то што „волга", нават „лазік" не праб'ецца і трэба ісці пешшу, і наведанне такіх мясцін, у якіх вас сустрэне звонкім і рознагалосым „дзень добры" грамадка шустрай басаногай дзетвары, а дзядок-старэча папросіць сесці на мураве пад цяністым берастам і павядзе гутарку пра даўняе, колішняе, дзіўнае, ні то быўшае на самай справе, ні то паўстаўшае ў яго ўяўленні, застываючым ужо пад холадам паважнай сівізны, — пісаў Мікола Гайдук у 37-м нумары „Нівы" ад 1978 года. — І калі хто жадае якраз такіх сустрэч з родным краем, раю яму наведаць Бяндзюгу — мясціну над ракою Нарвай. Можна туды трапіць па шашы, едучы з Міхалова ў Нараўку, каля аздобленых меражкаванымі фартушкамі-ахвярамі крыжоў перад вёскай Сушча трэба павярнуць направа...".


Скіт у Кудаку каля Адрынок

Крыжы перад Сушчай стаяць і ў наш час, толькі аздоблены яны звычайнымі стужкамі, а гэта паказвае на тое, што няма ўжо тых майстрых, што калісь мелі час займацца мяржкавым рукадзеллем. І перад самай Бяндзюгай, што ў двух кіламетрах ад Сушчы, таксама стаяць крыжы, у новай драўлянай агарожы. А старая жалезная агароджка стаіць збоку, у пятнаццаці метрах ад новай, пустая, без крыжоў. Чакае яна нейкага збіральніка металалому, бо ж цяпер у модзе простыя драўляныя штыкеціны. Тую даўнюю агароджу, мабыць, калісь урачыста асвяцілі, пакрапілі свянцонаю вадою і служыла яна доўгія гады жыхарам вёскі, суправаджаючы яе пакойнікаў у нававолькую царкву. Можна нават сказаць, што тая старая, нямодная ў наш момант, жалезная вартавая крыжоў намоленая. Не ведаю, ці асвячаючы новую агароджу — бо ж не ўяўляю, каб такая ўрачыстасць не адбылася — святар асвяціў і пакрапіў таксама і прадбачваны новы металалом...

У наш час большасць сцежак-дарожак, пра якія згадваў Мікола Гайдук, мусіць служыць выключна машынам, бо конікі, што цягалі вазы па бездарожжах, на нашых вёсках ужо пазводзіліся. Дарогі ў Бяндзюгу жвіровыя, але ў самой вёсцы справа выглядае больш складана, бо адыходзячая ад жвіроўкі ўлева вуліца паварочвае ўправа, становячыся вузкай вулачкай, мо паўтараметравай шырыні, абгароджанай платамі. У гэтыя платы сучасны вясковы транспарт не змесціцца, для яго там тупік, але колішні „жалязняк" мог у такі праезд прабіцца. Прабіўся і я на задворкі, у поле, адкуль да рэчкі Нарвы — рукою падаць. Падаўся я ў напрамку ракі, якая пасрэдна дала вёсцы назву. Менавіта недалёка адсюль зліваюцца Нарва з Нараўкай, з паўднёвага боку да гэтага зліцця падыходзіла калісь Бельская пушча, а з паўночнага — Блудаўская. І гэтыя пушчы давалі моц бярвення, якое ў гэтым выгадным для яго сплаву месцы звязвалі ў плыты, якія гналі ў Тыкоцін або і далей — у ганзейскі Данцыг-Гданьск. І тое звязванне, па-нямецку *Binding*, і дало назву месцу і вёсцы, якая ў тым месцы вырасла. Мікола Гайдук талкаваў інакш: „назва Бяндзюга паходзіць ад літоўскага *bedugne*—бездань, вялікая глыбіня"... Зараз у Бяндзюзе плытоў не вяжуць, бо годную драўніну ўжо вывезлі, а тую, якая нарасце, павязуць у свет па сухапутных дарогах. У Бяндзюзе зараз драўніна выкарыстоўваецца іншым чынам — працуе там фірма, якая вырабляе драўляны вугаль...

У Супруны з Бяндзюгі таксама каля двух кіламетраў. У Супрунах, не ўлічваючы адной згарэлай хаты, хат сем — дзве з іх не падаюць знакаў жыцця ў іх, значыць, няма каля іх слядоў на снезе. Мікола Гайдук быў пісаў: „У пісьмовых дакументах першае ўпамінанне пра Супруны адносіцца да 1750 года, тады ў гэтым месцы мелі абруб Лаўрын Супрон і Міхалка Супрон. Пра Бяндзюгу вядома, што ў 1784 годзе гэта быў засценак".

Падаюся далей, у Калясное. У Калясным таксама сем хат, і таксама дзве з іх падаюцца неабжытымі. Выходжу на канец вёскі, што з боку асфальтоўкі ў Плянты; хаця ўжо палова дня, свежага следу ў той бок няма, адно толькі на канцы разварот невялікага аўтамабіля, мабыць, аўтакрамы. Вуліцу перасёк мужчына, вяртаюся ў тое месца і чакаю ягонага вяртання. Неўзабаве паказваецца, гадоў яму мо за сорак. Толькі ён гаспадарыць у вёсцы, трымае кароў. Студзільніка не мае, малако возіць у Адрынкі; апрача яго ў адрыноцкую „злеўню" дастаўляюць малако яшчэ шасцёра сялян, але ходзяць чуткі, што той пункт прыёму сырадою гайнаўскі малочны кааператыў мае закрыць. Раней, калі яшчэ працавала малачарня ў Беластоку, малако прымалі ў Бяндзюзе.


Вулачка ў скіт

У Калясным зімуе дзевяць душ, прыблізна столькі ж і ў Супрунах. У Супрунах дзве каровы. І яшчэ адно адрозненне паміж гэтымі адлеглымі ад сябе на няцэлы кіламетр вёскамі: у Супрунах не паказаўся ніводзін сабака, у Калясным іх чатыры... Паміж вёскамі запушчаныя пашы, рупліва перагрэсеныя дзікамі. І вакол іх, вёсак, рэканкіста Блудаўскай пушчы. Гайдукова шустрая басаногая дзетвара — гэта ўжо ў нашых умовах экзотыка.

Падаюся ў Адрынкі, бліжэй пабачыць скіт, якога купал панадна відаць было ўжо з Бяндзюгі. Удаецца мне з некаторым клопатам адчыніць брамку, што ад вёскі на кладку, але ўжо брамку на тэрыторыю скіта адчыніць не маю хітрасці. Гаспадар скіта, айцец Гаўрыіл заняты прачышчаннем скітаўскіх сцежак-дарожак ад снегу і мяне не заўважае ні вокам, ні вухам. Уваходжу мінаючы кавалак плота, пытаю пра нядаўнія зніштэнні. А айцец да мяне з дакорам, што я сам павінен быў заўважыць адсутнасць купала на браме, што ад вёскі. А мне ж было пра гэта і не падумалася: калі бяру ў руку манеты, не прыглядаюся, ці на іх гербавым арле карона залацістая ёсць, ці яе няма — гэтак жа сама і з брамай: рупіла мяне каб ёю прайсці, а не прыглядацца ці купал на ёй ёсць, ці яго няма. Апальны купал цяпер у рамонце і ўведзены меры, якія маюць больш ахоўваць скітаўскую нерухомасць.

Да скіта ў Кудаку, бо так тое месца называецца, вядзе не толькі слаўная доўгая кладка па пойме Нарвы ад Адрынок. Ёсць яшчэ і кладка цераз Нарву ў Рыбакі ды дарога пасярод сенажацяў у Адрынкі, якая пачынаецца ў цэнтры вёскі, недалёка пункта прыёму малака.

У 50-м нумары „Нівы" ад 1973 года — а гэта было 38 гадоў таму — Мікола Гайдук быў пісаў: „У Адрынках ёсць пачатковая школа, клуб, спажывецкая крама, мясцовая проціпажарная каманда мае рамізу і машыну „Жук". Вёска электрыфікавана і мае тэлефон. З яе выйшла некалькі афіцэраў Войска Польскага, настаўнікаў і спецыялістаў з іншых галін народнай гаспадаркі. Жыхары Адрынак маюць і свае клопаты. Злеўня малака знаходзіцца ў прыватным драўляным будынку, які ўжо непрыгодны да ўжытку. Хацелі б пабудаваць новую, сучасную злеўню...". Цяпер злеўня там мураваная, ад школы астаўся па сутнасці толькі яе мураваны каркас...

У чарговай вёсцы, Брушкоўшчыне — дзевяць хат, у наступнай, Гарэндах, менш-больш столькі ж. У 1984 годзе, як падаваў згадваны мною Мікола Гайдук, у абедзвюх вёсках было дванаццаць гаспадарак (у Брушкоўшчыне толькі тры), а пражывала ў іх 44 чалавекі. Што цяпер там адбываецца, цяжка зімою здагадацца, а заходзіць у хаты не вельмі было як, бо брушкоўскія сабакі далі мне канцэрт свайго вакальнага мастацтва, быццам падказваючы, што ўсялякі няпрошаны там госць не надта пажаданы. Але можна паздагадвацца, што было там раней, у дагайдуковы час...

У сваіх разважаннях Мікола Гайдук адводзіў шмат месца разважанням накont этымалогіі мясцовых назваў. Пра Бяндзюгу і Супруны мова была. Калясное сваю назву выводзіць ад калёсаў, а Адрынкі ад адрын, аднак націск у назве гэтай апошняй мясцовасці падае там на апошні склад, таму ў мяне іншае, чым у Гайдука, яе скланенне. Цікавая этымалогія назвы вёскі Гарэнды, якую мой вандроўнік-папярэднік называў Гарандамі. Мікола Гайдук пісаў: „Яе [назвы] незвычайнасць і таямнічасць спакушае да розных здагадак. І так, пасля вайны ў афіцыяльных спісках мясцовасцей і на картах яе сталі зваць Городовшчызна. Гэтая, уведзеная, мабыць, нейкім чыноўнікам, штучная назва не ўжываецца мясцовым насельніцтвам, хоць яна, на першы погляд, і адлюстроўвае мінулае гэтай вёсачкі. Тым больш, што яе старэйшыя жыхары з гонарам падкрэсліваюць, што яны мяшчане, бо жывуць у колішнім нараўскім „прадмесці". Найбольш даўняя гістарычна, запісаная назва, якая мне вядома, — гэта Gorędowizna (канец XVIII ст.), затым у канцы XIX — пачатку XX ст. ст. замест яе ўжывалася Gorędowszczyzna, Harendowszczyzna. Абедзве яны паказваюць на сваю крыху спольшчаную беларускасць, а выводзяцца, пэўна, ад слова „арэнда", якая ў беларускіх гаворках часта вымаўляецца „гарэнда". Мабыць, некалі арандаваў тут нехта некалькі валокаў зямлі. І зусім беспадстаўна М. Кандрацюк намагаецца паказаць паходжанне гэтай назвы ад старапольскага імя Gorząd — Goręda". У гэтыя разважанні і я маю ахвоту падкінуць свой грош, бо ж здаецца мне, што розныя назватворныя прэстыдыжытатарствы маглі назву гэтай вёскі вывесці і ад слова „горан" — печы для выплаўкі жалеза з руды. Вёска побач нарваўскай поймы, у якой руда не была вельмі чужая, на што паказваюць назвы вёскі Рудня, залітай цяпер Семяноўскім вадаёмам у вышэйшым цячэнні Нарвы, і рэчкі Рудня, што ўліваецца ў яе ніжэйшым цячэнні. Магчыма, што калісь-калісь у *gorędowskich* горнах працавалі мяшчане-кавалі, якія выкоўвалі жалезныя лычы для *гарандатарскіх* сохаў...

■ Тэкст і фота
Уладзіміра СІДАРУКА

# Аб святліцы ў Кузаве

**Кузаўская святліца была збудавана на грамадскіх пачатках у 1950-х гадах. Сяляне скарысталі для гэтай мэты лес з вясковай супольнасці, самі рэзалі трачку, адно майстра наймалі для ўзвядзення будынка. Праца доўжылася некалькі год. Святліца стала месцам агульных сходаў. Моладзь арганізавала танцавальныя вечарыны, рыхтавала пастаноўкі. Вось як успамінае гэты час 76-гадовая Анна Масальская:**

— Як не было святліцы, дык забавы і скетчы рыхтавалі мы па кватэрах. Памятаю, як перад Божым Нараджэннем хадзілі калядаваць з „кракавякам". Перш-наперш калядавалі на каталіцкае свята ў Чаромсе, а на праваслаўныя Каляды хадзілі па Кузаве. Мяне пераапранaлі за маладую, Ніну Рыгораўну Саўчук (зараз у Варшаве пражывае) за маладога. Дружкамі былі Лідзія Якубаўна Саўчук і Марыя Рэпка, а дружбантамі — Ксенія Смык і Зіна Рэпка. Паколькі маладая з дружкамі былі нізкага росту, дык малады з дружбамі выглядалі высокімі, стройнымі малайцамі. Хлопцы не выступалі, толькі хадзілі з намі для аховы, бо ў Чаромсе жулікі нас находзілі. Да нашай кампаніі далучаліся яшчэ Марыя Васільеўна Раманчук і Анна Смык, затым малодшыя сяброўкі: Лідзія Рыгораўна Раманчук і Марыя Шатыловіч (зараз Чыквін). Супольнае калядаванне давала шмат задавальнення. Здабытыя грошы прызначалі на арганізаванне вячоркаў у святліцы. З ходам часу кампанія раскінулася. Дзяўчаты павыходзілі замуж, абзавяліся сем'ямі. Палачку вядучага ў ладжанні культурных мерапрыемстваў пераняло малодшае пакаленне. У шасцідзесятых гадах у святліцы арганізавалі клуб „Рух". Узніклі маладзёжныя арганізацыі: Саюз вясковай моладзі (ЗМВ), Ліга сяброў салдат (ЛПЖ), БГКТ. Першай клубовай была Марыся Саўчук (па мужу Назарук), затым Яўгенія Раманчук (па мужу Сідарук). Моладзь пры дапамозе старэйшых аднавяскоўцаў апекавалася святліцай. Праводзілі неабходныя рамонты. А калі зала аказалася цеснаватай, рашылі разбудаваць. Хто як мог дакладаў сваю цаглінку — адны грашыма дапамагалі, іншыя — рабочай сілай. Ініцыятарам разбудовы быў Міхась Масальскі, які рыхтаваў тады вяселле для дачкі Аліны. Дружна дапамагалі яму аднавяскоўцы. Памяшканне было здадзена ў карыстанне ў канцы 1992 года. У апошнім часе прыбудоўка выкарыстоўвалася для кухонных мэт у час арганізавання рознага віду прыёмаў гасцей (вяселлі, памінкі і г.д.).



■ Анна Масальская, сведка мінулых падзей у вясковай святліцы

З таго часу мінула амаль дваццаць гадоў. Для будынка спатрэбіўся рамонт. Гмінны самаўрад, як праўны апякун маёмасці, упершыню загаварыў аб рэстаўрацыі будоўлі ў 2010 годзе. Інвестыцыя ў рамках праекта „PROW 2007-2013" была рэалізавана ў мінулым годзе. Кошт рамонту склаў 247 821,39 зл., прычым гміна пакарысталася еўрасаюзнымі сродкамі ў суме 140 808 зл. У час рамонту былі зменены кроквы, дах, дзвярная і аконная сталярка, уцеплены скляпенне і паркетная падлога з грэсу. Збудавалі камінак для ацяплення, паклалі глазуру ў кухні. Выканалі поўную электраўстаноўку для асвятлення ўнутры з аднaчасовым далучэннем да электрычнай лініі. Рамонтнікі выканалі новую столь і штукатурку ўнутры на драўляных сценах. Кухня атрымала санітарную арматуру з абсталяваннем газавай кухні з выцяжкай. Збудавалі камін. Былі зменены драніцы на драўляных сценах і аднаўлена штукатурка на мураванай частцы будынка. У рамках інвестыцыі купілі шэсцьдзесятат крэслаў, шэсць вешалак і дзесяць сталоў. Пастаўлена была новая агароджа вакол святліцы, пракладзены тратуары пры ўваходных дарожках. Рамонт закончыўся тэрмінова пры канцы мінулага года.




## http://tvory.byhost.org.

У свеце, і тым больш у Беларусі, знойдзецца не так многа сайтаў, якія распавядаюць аб літаратурным жыцці невялікага населенага пункта. Здаецца, ну што можа быць цікавага ў аматараў слова і пяра ў такім горадзе як Баранавічы. Але той, хто сапраўды любіць свае мясціны, знойдзе што распавесці аб іх цэламу свету, паказваючы літаратурную спадчыну і сучаснасць. Пэўна, такімі меркаваннямі кіраваліся стваральнікі сайта „Творы", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://tvory.byhost.org.**

Галоўная старонка сайта выглядае досыць арыгінальна. Уверсе выяўлення — назва, элемент арнамента і словы „Прыйдзе час — усё патоне ў начы. Данасці. Не згубіць. Зберагчы!", якія ці то знікаюць, ці то зноў з'яўляюцца. Далей ідзе традыцыйнае дзяленне на дзве часткі, дзе ў вузейшай левай месціцца выйсці да рубрык, а ў левай шырэйшай — асноўны тэкст. Шукаць каму належыць даны сайт і хто стаў ініцыятарам яго з'яўлення доўга не трэба — у невялікім тэксце на галоўнай старонцы тлумачыцца, што стваральнікі — сябры баранавіцкай грамадскай арганізацыі Творчае згуртаванне „Святліца". „Ключавое слова назвы сайта — ТВОРЫ — сведчыць пра тое, што тут вы, найперш, знойдзеце творы нашых землякоў у розных галінах мастацтва. Гэта беларуская літаратура, песенная творчасць, класічная музыка, жывапіс, графіка, мастацкае кавальства, разьбярства, саломапляценне, кераміка і іншае", — пішуць грамадскія актывісты.

Тое, што руплівцы на баранавіцкай ніве літаратурна-мастацкай творчасці ўзяліся за добры кавалак працы, сведчаць ужо назвы рубрык: „Беларуская літаратура", „Выяўленчае мастацтва", „Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва", „Беларуская песенная творчасць" і гэтак далей. Прычым у некаторых з рубрык месціцца некалькі падрубрык, як напрыклад, у „Праблемах беларускай культуры і мастацтва", дзе, сярод іншага, ідзе абмеркаванне знікнення беларускай мовы ці пытанне стварэння ў Баранавічах прафесійнага тэатра.

Стваральнікі сайта палічылі неабходным прэзентаваць яго двойчы — у першы раз на галоўнай старонцы, а другі — у рубрыцы „Пра сайт", выйсце на якую месціцца ўверсе пад назвай партала. Прычым другая прэзентацыя настолькі падрабязная, што лёгка замяніць неабходнасць клікаць мышкай на кожную рубрыку паасобку.

Затое вельмі сціпла прадстаўлена арганізацыя „Святліца". Дзе яна месціцца, можна даведацца толькі з падрабязнай прэзентацыі альбо метадам тыку ў рубрыку „Творчыя суполкі і арганізацыі Баранавіч". Менавіта там мы знойдзем храналагічны расповед пра дзейнасць „Святліцы", пазнаёмімся са статутам, планамі дзейнасці і нават паглядзім фотаздымкі найбольш актыўных яе сяброў.

Дарэчы, у „Творчых суполках" распавядаецца таксама пра Аб'яднанне юных літаратараў „Узлёт", Літаратурнае аб'яднанне старшакласнікаў „Святлічка", баранавіцкае аддзяленне Таварыства беларускай мовы.

Цікавымі падаюцца рубрыкі „Сшытак юнага літаратара" і „Галерэя юнага мастака", дзе месціцца творы пачынаючых аўтараў. Разам з тым уладальнікаў сайта яшчэ чакае вельмі многа працы па яго напаўненню і своечасовым абнаўленню. Так, напрыклад, дагэтуль застаецца пустой старонка „Аматарская фотавыстава", дзе, пэўна, павінны размясціцца здымкі, зробленыя баранавіцкімі фотааматарамі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Смаргонь як Гасконь

Смаргонскі край займае асаблівае месца ў ментальным шэрагу мясцовасцей Беларусі. Менавіта тут было моладзевае антысавецкае падполле, якое дзейла пасля апошняй вайны. Вучнёўскі антыкамуністычны рух быў разгромлены, а яго ўдзельнікі ў 1950 г. атрымалі вялікія турэмныя тэрміны. Балазе праз пару гадоў пасля гэтага сканаў крывавы крамлёўскі правадыр і засуджаныя патрыёты былі амніставаныя і вярнуліся ў родныя мясціны. Яшчэ праз сорак гадоў савецізаваныя беларусы выбіралі сабе новага „бацьку", але на тых, адзіных у гісторыі краіны сапраўдных выбарах, насельнікі Смаргоншчыны прагаласавалі пераважна за прадстаўніка нацыянальнай апазіцыі — Зянона Пазьняка. Пачатак дзевяностых — слаўны час для нашага Адраджэння. Беларушчына на Смаргоншчыне стала расці як грыбы пасля дажджу, настолькі яна тут арганічная.

Падобна кніжнаму герою Аляксандра Дзюма, гасконцу з паходжання, мясцовы жыхар можа сказаць: „Мне не патрэбныя акадэміі, кожны смаргонец з дзяцінства акадэмік". Насамрэч, сённяшнія смаргонскія „д'Артаньяны" выпраўляюцца не ў Парыж, а ў Маскву на будаўнічыя заробкі. Гэта паслядоўнасці росквіту эканомікі „рынкавага сацыялізму". Але Францыя трывала ўвайшла ў гісторыю горада. Менавіта ў Смаргоні спыняўся Напалеон Банапарт, тут ён перадаў камандаванне сваім войскам маршалу Іаахіму Мюрату. А яшчэ на Смаргоншчыне дагэтуль шукаюць так званую „карэту Напалеона". Па адной з версій, менавіта ў мясцовых балотах ці азёрах быў затоплены ўнікальны скарб з каштоўнасцямі.

Што ж датычыць адукацыйных устаноў, то з XVII стагоддзя ўладальнікамі мясцовасці магнатамі Радзівіламі тут была заснаваная „Смаргонская акадэмія" — жартоўная назва промыслу лавіць і дрэсіраваць мядзведзяў, адна са школ беларускіх скамарохаў. Мядзведзь зазвычай асацыюецца з Расіяй, ёсць ён гербам старадаўняй Жмудзі і сучаснай нямецкай сталіцы Берліна, але ў Смаргоні ці Смаргонях (назва раней ужывалася ў множным ліку) ён таксама сімвалічны. „Былі, можна сказаць, радзімай мядзведзяў!" — як сказаў бы іншы кіна-літаратурны герой. Цяпер жа іх па ўсёй Беларусі засталося не больш сотні. У даўнія часы ў мясцовай „акадэміі" мядзведзяў навучалі цыганы. Гэта была досыць жорсткая дрэсіроўка — жывёлін садзілі ў адмысловую клетку, металічнае дно якой моцна награвалася — так мядзведзі вучыліся танчыць пад музыку бубна і ражка. Гэтыя „артысты" разам з дрэсіроўнікамі амаль кожнай вясной выпраўляліся на сапраўдныя гастролі па ўсёй Еўропе, а вярталіся дахаты з заробкаў толькі ўвосень. Гісторыя „Смаргонскай акадэміі" вывучана не надта добра, цяжка сказаць дакладна нават калі яна спыніла сваё існаванне. Вядома, што размяшчалася яна на так званых Французскіх горках. Адкуль сюды прывозілі мядзведзяў — напэўна з Налібоцкай і Рудніцкай пушчаў. Некалі заходнікі думалі, што ў Беларусі вядуцца і белыя мядзведзі. Не ведаю як яны, а вось рэстаран „Белы конь" у Смаргоні сапраўды быў.

А яшчэ Смаргоні слаўныя сваім кальвінскім зборам, старадаўняй паперняй, вырабам абаранкаў, промысел якіх быў наладжаны тут гадоў чатырыста таму. Зусім нядаўна, акурат да Дня беларускага пісьменства, у горадзе паўстаў помнік Францішку Багушэвічу. Каталік і пясняр Мацей Бурачок, прысланіўшыся да каменю і падпёршы рукой падбароддзе, глыбакадумна пазірае на новы прыгожы праваслаўны сабор. Горад істотна змяніў аблічча, але захоўвае беларускую мову, нават у гратэскавым выглядзе цэнтральнага пляца з усталяваным дэвізам: „Ініцыятыва, адказнасць, патрабавальнасць да сябе — закон нашага жыцця".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞ працяг

# Пасляперапісныя сумненні

даць таксама спісак гмін, дзе меншасці складаюць мінімум 20% насельніцтва, а гэтым самым маюць права, напрыклад, на ўвядзенне двухмоўных табліц з назвамі мясцовасцей. Даследы пад гэтым ухілам правялі ў 86 гмінах, вылучаных на падставе перапісу 2002 г.

— Калі б аказалася, што нейкая гміна выконвае гэты крытэрый, дык і так пакажуць гэта вынікі, — таямніча пераконвала прадстаўніца ГСУ. — Я заклікаю, калі маеце да нас нейкія заўвагі наконт апрацоўкі вынікаў перапісу, заяўляйце іх да канца красавіка. Не будзе прыпісвання нацыянальнасці да грамадзянства. Сумненні, ці быў гэта перапіс, ці не — балючыя для нас. У чэрвені будзем чакаць ад журналістаў слоў: просім прабачэння.

**Галена Дуць-Файфер**, намесніца старшыні Зруртавання лэмкаў, заявіла, што запанаваў нейкі своеасаблівы перапісны неўроз, лік паасобных меншасцей не павінен мець уплыву, напрыклад, на размеркаванне для іх дзяржаўных грошай:

— Мяне не турбуюць вынікі перапісу, бо не будуць яны ані верагодныя, ані аб’ектыўныя. Сутнасцю меншасці ёсць тое, што яна ў сітуацыі падпарадкавання, а роляй дзяржавы з’яўляецца выраўноўванне шанцаў. Гэта тыя, якіх ёсць менш, павінны атрымліваць больш.

Яўген Вапа дапытваўся, ці вядомы лік няправільнасцей, якіх у час перапісу дапусціліся перапісчыкі і тэлеперапісчыкі і ці так, як гэта здарылася на Падляшшы, ГСУ адносна іх былі прыняты меры. Люцына Новак заявіла, што яе ўстанова занатавала некалькі такіх выпадкаў, ды гэта было рэдкасцю. Дадала:

— Перапісчыкі паходзілі з рэгіёна, у якім збіралі даныя. Было гэта так па прычыне коштаў.

Адзначыла:

— Малое значэнне мае інтэрнэтны перапіс. На лакальным узроўні мае агромнае значэнне, але не ў маштабе ўсёй краіны. У гэтым маштабе вынікі выбарачнага перапісу даюць добрую падставу для акрэслення нацыянальна-этнічнай структуры, затым меншаснай, а затым акрэслення ліку меншасных гмін. У сакавіку не будзе інфармацыі аб меншаснай структуры, а толькі аб нацыянальна-этнічнай.

**Лукаш Гжэндзіцкі**, старшыня Кашубска-Паморскага згуртавання адважыўся на тэзіс:

— Перапісная няўдача ў справе меншасцей можа мець таксама ўплыў на верагоднасць Польшчы на фінансавых рынках. Апрацоўка нацыянальна-этнічнай структуры павінна абапірацца на рэпрэзентатыўную выбарку, але не толькі на яе.

**Рыгор Купрыяновіч**, старшыня Украінскага таварыства:

— У залежнасці ад прынятага метаду пры апрацоўцы вынікаў перапісу, могуць яны адрозніваца нават на пару дзесяткаў працэнтаў.

Пры нагодзе аказалася, што ў час перапісу можна было акрэсліць сваю нацыянальнасць з ліку каля трохсот, якія занесены ў слоўнік ГСУ, ды надалей пры апрацоўцы даных паявяцца новыя, напрыклад, некаторыя запісваліся да народа джэдай.

У размове з „Нівай” Артур Яблонскі прызнаўся, што метад вызначання вынікаў у ніякі спосаб не пакажа сітуацыі меншасцей у РП.

У прынятым дакуменце адносна нацыянальнага перапісу камісія заявіла, м.інш.: „Заадно праблемы, якія ўзніклі ў час падрыхтоўкі Нацыянальнага перапісу насельніцтва і жылля 2011 года, яго рэалізацыі і прадстаўленая метадалогія апрацоўкі вынікаў могуць у вырашальны спосаб паўплываць на якасць рэзультатаў Перапісу ў абсягу нацыянальнасці і мовы. На думку меншаснага боку СКУіНіЭМ сумняваецца ў законнасці выкарыстання іх для рэалізаці запісаў Закону аб нацыянальных і этнічных меншасцях ды аб рэгіянальнай мове”. Члены камісіі выступілі таксама з заявай аб стварэнні групы экспертаў, якая незалежна ад ГСУ зоймецца апрацоўкай вынікаў перапісу пад меншасным ухілам. Аб іншых праблемах, якія краналіся ў час беластоцкіх абрад супольнай камісіі — праз тыдзень.

## ЗАПРАШЭННЕ

**Польскае тэлебачанне Беласток і Белсат запрашаюць у кіно Форум у Беластоку, 6 сакавіка 2012 г. у 18.⁰⁰ і 20.³⁰ на прэм’еру фільма Юры Каліны**

## «АРХІМАНДРЫТ»

**Архімандрыт Гаўрыіл** — праваслаўны манах з Падляшша ў Польшчы — заснаваў ля ракі Нарвы скіт, дзе пражыў некалькі гадоў у малітвах — без электрычнасці, водаправода, без сувязі з вонкавым светам. Праз пяць гадоў пасля заснавання манастыра мясцовыя праваслаўныя дапамаглі паставіць там драўляную царкву, дом для манахаў ды іншыя гаспадарчыя пабудовы. Неардынарная асоба манаха - пустэльніка айца Гаўрыіла прыцягвае паломнікаў, з кожным ён імкнецца знайсці агульную мову, дае карысныя духоўныя парады, лечыць зёлкамі, мёдам са сваёй пасекі. Калі трэба, айцец закачвае рукавы і разам з усімі працуе на будоўлі скіта. Але найбольшы клопат для архімандрыта — тое, што ён пакуль не можа знайсці сабе пераемніка: у сучасным свеце цяжка застацца сапраўдным манахам - пустэльнікам, бо тады трэба адмовіцца ад камфорту цывілізацыі, ад кантактаў з аднагодкамі.

## 04.03 — 10.03

**(22.03. — 20.04.)** Аж да 23.03. не шкадуй сабе прыемнасцей, але працуй сумленна, бо ад гэтага будзе шмат залежаць. Будзеш хуткі, рашучы, поўны запалу, выкажашся кемлівасцю, наладзіш добрыя знаёмствы. Пашчасціцца табе і ў падарожжах. Ахвотна падзелішся тым, што маеш, і шмат табе яшчэ застанецца!

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш жыццярадасны, будзеш цешыцца і малымі прыемнасцямі, і блізкасцю людзей. Будзеш поўны красы, выклічаш захапленне. Шчаслівыя выпадкі памогуць аформіць важныя справы. Засяродзься на тым, што маеш зрабіць. Будзеш крыху баяцца навінак і фінансавых рухаў. Калі заінвестуеш, дык у нерухомасці, купіш што-небудзь для дому.

**(22.05. — 22.06.)** Аж да 23.03. будзеш поўны запалу, энергіі і адвагі, возьмешся за новыя выклікі і напалохаеш канкурэнцыю. Усіх перагаворыш, а твае аргументы ўваб’юць апанентаў у зямлю. Паскорацца твае прафесійныя справы, толькі дэталёва ўсё абдумвай. Някепскае здароўе.

**(23.06. — 23.07.)** Дэталёва прыглядзься розным недахопам і памылкам. Замест каяцца, выцягні з гэтага высновы, бо маеш шанц паправіць тое, што папсаваў. Удасца, калі будзеш практычны і сабраны. Людзі будуць табе спрыяць і ахвотна пададуць руку. Пастаў на сурацоўніцтва.

**(24.07. — 23.08.)** У першай палове месяца старайся паканчаць розныя рэчы і падагнаць хвасты. Можаш адчуць стому і фрустрацыю ад недахопу эфектаў. Дзве першыя дэкады не спрыяюць гармоніі ў пары. Паявяцца нагоды вельмі цікавага знаёмства. Можаш шмат зарабіць, але і выдаць тое лёгкай рукою.

**(24.08. — 23.09.)** На працы будзеш вельмі спраўны і ўдачлівы. Да 7.03. будзь вельмі асцярожны, асабліва пры грашах. Аж да 23.03. будзеш адважны і дзелавы, без праблем зрэалізуеш усе свае намеры, пашырыш гарызонты, можаш выбрацца ў далёкае падарожжа, якое цалкам адменіць тваё жыццё.

**(24.09. — 23.10.)** Адбывацца будзе шмат што! Захочацца змен, будзеш крэатыўны і небяспечна прыманлівы. Біць ад цябе будзе пазітыўная энергія. Пераможаш цяжкую перашкоду. Добры час на сур’ёзныя размовы, таксама аб легалізацыі сувязей. Не вельмі добра ў пакупках, дык лепш трымай вужа ў кішэні.

**(24.10. — 22.11.)** Адчуеш стому, запаволь тэмп, можаш нават змяніць працу, стаць „свабодным стралком”. Можа паявіцца хтосьці, што намяшае ў тваіх фірмовых справах (хутка яго рассакрэціш!). Не будзе цябе турбаваць здароўе, дык задбай аб красу. З 8.03. (да 20.03.) будзеш дзейнічаць з вялікім размахам. Паявіцца агромная энергія; даб’ешся да кожнай мэты! Даўжнік таксама верне табе немалыя грошы; будзь цярплівым!

**(23.11. — 22.12.)** Каханне, сяброўства, удачу маеш як рукой падаць. Дома чакаюць дробныя змены. Можаш атрымаць большую зарплату, прэмію ці ўзнагароду. Скрупулёзна выконвай абавязкі. Задбай аб добрае здароўе і юнацкі выгляд. Папрасі параду ў Скарпіёна.

**(23.12. — 20.01.)** Можаш апынуцца ў адпаведным месцы і часе. Прыдадуцца табе старыя кантакты. Толькі калі будзеш ззяць і павышацца, могуць знайсціся зайздроснікі. Дакладней прыгляньса важным справам. Настрой можа быць горшы, ды не будзеш наракаць на здароўе.

**(21.01. — 19.02.)** Да 7.03. будуць нагоды, каб адрэкамендавацца з як найлепшага боку. Выдатны настрой, твая баявітасць кіне атачэнне на калені. Рассакрэцяцца справы, якія перад табою хавалі. Будзеш крыху рассеяны, пільнуйся. 8.03. абавязкова наведай лекара!

**(20.02. — 21.03.)** Ад 20.03. адчуеш, што жывеш. Лёс запрапануе табе мноства цудоўных сюрпрызаў. Многа сілы для рэалізацыі найбольш цяжкіх задач. Варта закаціць рукавы! Файны настрой, знакамітая форма, ідылія ў пачуццях. Ды трэба будзе табе пабыць ашчадным.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

### Карова

(*Трайны паліндрам*)

Жыла-была вясковая карова доўгі век  
І карыстаўся ёю, як малочным аўтаматам, чалавек.  
Ды вось такі настаў парадкаў новых час,  
Што вясковае пазводзілася пагалоўна ў нас.  
Вось сталі гаварыць нямногія пажылыя сяляне,  
Што вёскі і зусім у нас не стане,  
Што ўсё вясковае на самаход збяруць  
І ў гарадскі музей паказваць павязуць.  
А нашая _ _ _ _ _ _ / _ _ _ _ _ _ _ такіх як бы і не чула,  
Сям-там траву скубла, часам хвастом муху змахнула.  
Ды лёсу вясковага нашага не мінаваць —  
Настаў ёй час на траўку гарадскую выязджаць.  
Вялікі самаход за ёй прыслалі як за маладухай,  
З яго асілак-змагар вылез, карову па спіне пачухаў.  
А яна мяркуе: _ _ _ _ / _ _ _ / _ _ _ _ _ _ _ бярэцца за справу  
Дык пэўна павязуць яе аж у Варшаву  
Ды ў зашклёныя сталічныя салоны завядуць,  
Сухое сена кінуць, а сакавітай траўкі не дадуць.  
Халоднакроўная дасюль і пакорлівая як цялятка  
Рашыла яна даць бой такім новым парадкам —  
Быццам хто наліў ёй у жылы Egri Bikaver,  
Бярэ яна на рогі, як на вілы, свае справы  
І храпы надуўшы, угару хвост, як харугву ўзнімае  
Ды позіркам грозным стронгмена з пашы прэч выганяе.  
Вось давер’я _ _ _ _ _ / _ _ _ _ _ _ даць пабаяўся,  
Забраў ногі за пояс і карове больш не паказаўся.

**(ш)**

**Падказка:** Адгадваныя фразы павінны чытацца аднолькава так з пачатку, як і з іх канца, напрыклад *касы сак*.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Гаць, Дзвіна, дыета, Нант, таз, Тар, шып, яўрэй.

Рашэнне: **Заўтра, гэта найпрацавітшы дзень тыдня**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Хаця сёлетні XIII выпуск Конкурсу беларускай гавэнды, які 24 лютага традыцыйна адбыўся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы пад наглядам настаўніка беларускай мовы Яна Карчэўскага, нельга назваць юбілейным, аднак дае ўжо ён права паўспамінаць і вярнуцца ў думках да 2000 года. Тады першы раз здзейснілася задума Яна Карчэўскага і ў Гайнаўскім белліцэі з расказамі выступілі дзеткі і моладзь Гайнаўскага павета. Пасля конкурсная камісія і настаўнікі, якія апекаваліся расказчыкамі, стараліся выпраўляць памылкі і вучылі маладых людзей мастацкаму чытанню. Сталі паяўляцца аўтарскія расказы, якія вучні рыхтавалі самастойна або з дапамогай сваіх педагогаў. Аднак найчасцей вучні рыхтаваліся да расказаў супольна са сваімі настаўнікамі, якія, ведаючы іх магчымасці, дапамагалі іх падрыхтавацца да выступаў, каб паказаць як мага найбольш козыраў маладых людзей. Аднак канчатковы рэзультат выступаў з расказамі па-беларуску залежаў у вялікай ступені ад акцёрскіх здольнасцей маладых людзей. Хаця мастацкі ўзровень гавэндзярскага конкурсу ў агульным павышаўся, то нельга сказаць, што гэта адбывалася з году ў год, бо бывала, што ў некаторых гадах выступала якраз менш здольная моладзь.**



Карнелія Аніта Порац

# Гавэнда з традыцыямі

*Конкурсная камісія сярод вучняў падставовых школ першыя месцы прызначыла Карнеліі Аніце Порац і Крыстыяну Паскробка (абое са Школы ў Нарве), другія месцы занялі Дамініка Пуц (Школа № 3 у Гайнаўцы), Агата Беразавец (Школа ў Нарве) і Дар'я Місяюк (Школа № 6 у Гайнаўцы), а на трэціх месцах апынуліся Мартына Панасюк (Школа № 3) і Наталля Пліс (Школа № 6).*

*У катэгорыі гімназічных школ першыя месцы занялі Уля Беразавец (Школа ў Нарве) і Лукаш Марчук (Школа ў Нараўцы), на другіх месцах апынуліся Марыёля Аніщчук і Юліта Садоўская (Школа ў Дубінах), Караль Лукша (Школа ў Нарве) і Адам Харкевіч (Школа ў Нараўцы). Трэція месцы занялі ажно 6 асоб — Паўліна Цэтра і Сільвія Герасімюк (Гайнаўская белгімназія), Наталля Дзмітрук (Школа ў Чыжах), Юстына Хадакоўская і Адрыян Куптэль (Школа ў Дубічах), Юстына Дыкерт (Гімназія № 2 у Гайнаўцы ). Супольна выступаючыя Малгажата Іванюк і Барбара Нядзельская з Гайнаўскага белліцэя занялі другое месца.*

на было запрэзентаваць выказванні героя апаведаў, бо такая разнароднасць павінна зрабіць выступленні больш займальнымі і даваць большую магчымасць дабіцца перамогі.

— Мы стараліся як мага найцікавей расказаць, а камісія — ацаніць як гэта нам атрымалася, — дадала Мартына Панасюк з гайнаўскай „тройкі”.

Настаўніца беларускай мовы з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы Людміла Грыгарук пахваліла конкурс расказчыкаў за добрую яго арганізацыю і мілую атмасферу, звяртаючы адначасна ўвагу, што яе вучні вельмі ахвотныя да расказаў, выступаў перад большай публікай і цікавыя выступам дзетак і моладзі з іншых школ.

— Сцэнарый да расказу напісла мне былая бібліятэкарка з Ласінкі Аліцыя Станько і я разам з ёй рыхтавалася да выступу. Лічу, што трэба так расказваць, каб увесь час слухачы былі зацікаўлены нашымі апаведамі, — сказала Уля Беразавец з Комплексу школ у Нарве. — Здарылася сёння, што збілася я з загадзя падрыхтаванага сцэнарыя, але, імправізуючы, вярнулася ў асноўны сюжэт расказу і гэта галоўны козыр конкурсу расказчыкаў у параўнанні да дэкламатарскага конкурсу.

— Каб вучні маглі ўмела выступіць, патрэбная перш за ўсё адвага. Дзеткі могуць падабраць адпаведныя расказы і навучыцца ў школе правільна чытаць,


Крыстыян Паскробка



Уля Беразавец


Малгажата Іванюк і Барбара Нядзельская

У гэтым годзе выступілі ў агульным здольныя вучні і відаць было, што большасць з іх акуратна падрыхтавалася да конкурсу. Канешне, былі розныя хібы, але за імі сачыла ўжо конкурсная камісія. Калі вучні рабілі моўныя памылкі, відаць было як члены камісіі Іаланта Грыгарук, метадыст і заадно настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі і Анджаліна Масальская, бібліятэкарка Беларускага музея ў Гайнаўцы бяруць у рукі аўтаручкі і робяць паметкі каля прозвішчаў выступаючых. За правільнае вымаўленне, спантаннасць, жэсты і пераканальнасць выказванняў вучні маглі атрымаць да 10 балаў. За падборку рэпертуару, яго адукацыйныя якасці і інтэрпрэтацыю таксама атрымлівалі да 10 балаў.

— Конкурс гавэнды цікавы, але адначасна цяжкі. Трэба ж падабраць канкрэтным вучням адпаведныя расказы і трэба ім добра ведаць мову, каб удала выступіць. Усе вучні вельмі стараюцца, каб паказацца як найлепш. Важная падборка рэпертуару, але яшчэ важнейшы спосаб прэзентацыі расказаў, — сказала Іаланта Грыгарук, старшыня конкурсней камісіі з двух чалавек, бо якраз захварэла беларусістка і бібліятэкарка Ірэна Ігнатовіч, якая ў мінулых гадах таксама ацэньвала расказчыкаў.

Сёлетняе мерапрыемства ўдастоілі бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя Ніна Лукасік і былы настаўнік Аляксей Харкевіч. Былі журналісты тэлебачання, радыё і прэсы. Беларускамоўныя мас-медыі бачаць канкрэтнае значэнне конкурсу расказчыкаў у замацоўванні нацыянальнай беларускай свядомасці сярод маладога пакалення, на што таксама звярнуў увагу ў час выступлення бурмістр Ежы Сірак.

— Конкурс беларускай гавэнды арганізуецца, каб падтрымліваць беларускасць і родную мову. Надалей вялікая колькасць ахвотных выступаць на гэтым конкурсе (у гэтым годзе запрэзентавалася 30 удзельнікаў — А. М.) доказ таму, што конкурс трэба ладзіць надалей, — лічыць галоўны арганізатар мерапрыемства Ян Карчэўскі.

— Каб лягчэй было расказваць, я рашыўся рабіць гэта па-свойму. Буду расказваць пра тое, як пажарнікі паехалі на экскурсію ў Італію. Мне задецца, што калі буду расказваць аб больш смешным, гэтым змагу больш зацікавіць публіку. Я рыхтаваў расказ супольна з пані Трашчотка, бо яшчэ не ведаў, на што звярнаць асаблівую ўвагу. Рашыўся раcпавядаць на сваёй мове, бо яшчэ дома так размаўляю з сямейнікамі і ў Ягадніках з сябрамі, — гаварыў Адрыян Куптэль. — У школе ў Дубічах па-свойму размаўляюць яшчэ вучні з Ягаднік, Тафілаўцаў, Грабаўца, Дубіч і паасобныя вучні з іншых сёл. Малодшыя больш гавораць па-польску, але і сярод малодшых сябраў можна яшчэ спаткаць асобы, што гавораць на сваёй мове.

— Мне падабаецца конкурс і думаю, што ўсё будзе добра. Па-свойму я ўжо толькі з бабуляй размаўляю і таму рашылася расказваць на літаратурнай беларускай мове, якую ведаю лепш, — сказала Юстына Хадакоўская з Елянкі.

— Мае вучні ўпершыню на конкурсе расказчыкаў. Стараюся, каб яны распавялі пра тое, чым могуць зацікавіць публіку, — удакладніла настаўніца беларускай мовы з Дубіч-Царкоўных Галіна Трашчотка.

— Нашым гімназістам больш падыходзіць гавэнда. Малодшыя вучні больш ахвотныя выступаць на дэкламатарскім конкурсе, — гаварыла Анна Кандрацюк, настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ у Нараўцы. — Я думаю, што каб дабіцца поспехаў у час конкурсу расказчыкаў, трэба каб вучні падабралі расказы адпаведныя для сваіх тэмпераментаў і здольнасцей. Моладзь павінна таксама ўмець адпаведна запрэзентавацца перад публікай.

— Я люблю расказваць і таму мне конкурс падабаецца, — сказала Дамініка Пуц з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы, якая ўжо некалькі разоў выступала ў конкурсе і за кожным разам дабівалася поспехаў.

Настаўніца гайнаўскай „тройкі” Марыя Крук гаварыла, што асаблівую ўвагу звяртае на вымаўленне, а перш за ўсё на націскі, бо некаторым польскамоўным вучням складана засвоіць правільнае вымаўленне і акцэнтаванне. Вучні гэтай школы патрабуюць ад сваёй настаўніцы, каб падчас расказаў можале без пераадолення страху не запрэзентуюцца добра перад вялікай публікай. Важнае таксама добрае супрацоўніцтва з бацькамі, якія дома могуцьназіраць за падрыхтоўкай і заахвочваць да больш інтэнсіўнай вучобы. У мяне сёння ёсць двух дэбютантаў, якім трэба было растлумачыць, што самае важнае ў час конкурсу і падабраць ім адпаведныя матэрыял, — сказала настаўніца беларускай мовы з Комплексу школ у Нарве Ніна Абрамюк.

Пасля абвяшчэння вынікаў конкурсу аказалася, што двух дэбютантаў з нарваўскай школы Карнелія Аніта Порац і Крыстыян Паскробка занялі два раўнапраўныя першыя месцы ў катэгорыі вучняў падставовых школ.

— Усе конкурсы патрэбныя ў працэсе навучання беларускай мовы. Мы, настаўнікі роднай мовы, павінны як мага найбольш займацца з вучнямі па-за традыцыйнымі ўрокамі. Трэба ж старацца зацікавіць як мага найбольш дзетак навучаннем беларускай мове, — сказала настаўніца беларускай мовы са школы ў Дубінах Ніна Куптэль.

Дзякуючы спонсарам, якімі былі Паўтовае старацтва, Гарадская ўправа і бацькоўскі камітэт пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы, пераможцы атрымалі вартасныя ўзнагароды. Усіх удзельнікаў мерапрыемства запрасілі на абед. Перад абвяшчэннем вынікаў выступілі акардэаністы — белліцэісты Матэвуш Харкевіч і Гжэгаж Дружба.


ISSN 0546-1960